БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
НА БЕЛАРУСІ
("АЛЬ-КІТАБ")

№ 4
МЕНСК 1991

Згуртаванню татарау-мусульман на Беларусі / "Аль-Кітаб" / вялікую дапамогу аказалі спадарыні і спадары:

Із.Александровіч, Ір.Александровіч, І.Афнагель, В.Вайткевіч, І.Варановіч, Я.Кузьміна, С.Макаёнак, В.Мацюшэнка, Б.Путрык, М.Савіцкі, В.Скалабан, А.Смольскі, М.Суша, У.Трацэускі, А.Усманава, Р.Хакімау, П.Церашковіч, Ф.Юркевіч, І.Ястраб.

Прыміце татарскі рахмат і глыбокую пашану.

Згуртаванне татарау-мусульман на Беларусі
/ Аль-Кітаб" /

Салям алейкум, паважаныя спадарыні і спадары !

У апошні час адбылася падзея сусветнага значэння -- распаўся Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, які быў пабудаваны на месцы Расіі -- "турмы народаў" / вызначэнне У.І.Леніна / і шмат гадоў заставаўся аплотам вялікага лагеру, абгароджанага калючым дротам на працягу многіх тысяч кіламетраў. Цяпер вальней дыхаецца усім, у тым ліку і мусульманам.

Вялікі дзякуй Алаху, які не дапусціў увядзення салдатаў на зямлю чачэнцаў, пазнаўшых царскую няволю, а пасля і дэпартацыю з родных мясцін. Цікава, што нават з вядомага верша А.С.Пушкіна "Кавказ" цэнзары выкінулі апошняе чатырохрадкоўе, бо яно актуальным было у пасляваенныя гады. Вось яно / цытую па памяці/:

Так буйную вольность законы теснят,
Так дикое племя под властью тоскует,
Так ныне безмолвный Кавказ негодует,
Так чуждые силы его тяготят !

На шчасце здараюцца і добрыя падзеі. У канцы лістапада наведаў Менск, Наваградак, Іўе імам-мухтасіб, імам-хатыб Талінскай мячэці Алі Харасаў, які аказаў мусульманам маральную падтрымку.

У лістападзе члены нашага Згуртавання прымалі ўдзел у нарадзе татараў Беларусі, Літвы і Польшчы, дзе было вырашана стварыць аб"яднанне / па-арабску ума / мусульман, якіх яднае агульнае паходжанне і у вялікай ступені агульны лёс. Пасля таго, як будзе апублікаваны статут, абмеркаваны і прыняты мусульманамі-татарамі, яго зарэгіструюць як міжнародную арганізацыю.

Вельмі парадавала нас і тое, што беларуская літаратурная і навуковая грамадскасць адзначыла 70-годдзе Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. 18 снежня у Доме пісьменнікаў была вечарына. Вельмі хораша выступалі людзі, якія разам са Сцяпанам Хусейнавічам вучыліся, працавалі разам з ім ці пад яго кіраўніцтвам, былі яго студэнтамі, аспірантамі, ці проста карысталіся яго заўсёды добрымі парадамі.

З мусульманскім словам, добра сустрэтым прысутнымі, выступіў Ібрагім Канапацкі. Прысутныя на вечарыне мусульмане памаліліся за душу Сцяпана Александровіча.

Усе парадаваліся, калі студэнты факультэта беларускай мовы і літаратуры БДУ, артысты-аматары паказалі сцэнку з "Паўлінкі" Я.Купалы, якая так падабалася Сцяпану Хусейнавічу.

У дзень нараджэння С.Х.Александровіча 15 снежня 1991г. беларускае радыё ажыццявіла вельмі добрую літаратурную перадачу пра чалавека, які ўвесь свой талент аддаў роднай Беларусі.

---

У гэтым нумары "Байрама" вельмі многа перадрукаў з іншых выданняў. Толькі нам здаецца, што нашы чытачы не будуць на нас у вялікай крыўдзе, бо старыя матэрыялы можа больш прываблівыя, чым сучасныя.

Шліце нам вашы матэрыялы і прапановы на адрас:
220090, г.Менск, Лагойскі тракт, д.27, кв. 77

Якубоўскаму Якубу

إليك ءايت بينت وما يكفر بها إلا الفسقون ❁ أوكلما
عهدوا عهدا نبذه فريق منهم بل أكثرهم لا يؤمنون ❁
ولما جاءهم رسول من عند الله مصدق لما معهم نبذ فريق من
الذين أوتوا الكتب كتب الله وراء ظهورهم كأنهم لا
يعلمون ❁ واتبعوا ما تتلوا الشيطين على ملك سليمن وما كفر
سليمن ولكن الشيطين كفروا يعلمون الناس السحر وما
أنزل على الملكين ببابل هاروت وماروت وما يعلمن من
أحد حتى يقولا إنما نحن فتنة فلا تكفر فيتعلمون منهما ما
يفرقون به بين المرء وزوجه وما هم بضارين به من أحد
إلا بإذن الله ويتعلمون ما يضرهم ولا ينفعهم ولقد علموا لمن
اشتريه ماله في الأخرة من خلق ولبئس ما شروا به أنفسهم
لو كانوا يعلمون ❁ ولو أنهم ءامنوا واتقوا لمثوبة من عند الله
خير لو كانوا يعلمون ❁ يأيها الذين ءامنوا لا تقولوا رعنا
وقولوا انظرنا واسمعوا وللكفرين عذاب أليم ❁ ما يود
الذين كفروا من أهل الكتب ولا المشركين أن ينزل

Кур"ан. Сура Аль-Бакара. Аяты 100 --- 104

# К У Р " А Н

## Сура Аль-Бакара

/ працяг /

97. "Усякі, хто вораг Алаха і Яго анёлаў і Яго пасланнікаў, і Гаўрыіла, і Міхаіла, тады, сапраўды, Алах ёсць вораг такім няверным".

98. І, сапраўды, Мы паслалі табе яўныя знакі, і няма нікога хто б не верыў ім, апрача непакорных.

99. Кожны раз, як яны ставяць запавет, частка іх адрачэцца ад яго. Не, у большасці з іх няма веры.

100. І цяпер, калі прыйшоў да іх вястун ад Алаха, які ажыццяўляе тое, што яны маюць, частка людзей, якім было дадзена Кніга, адкінулі Кнігу Алаха за плечы свае, як быццам не ведаюць яе.

101. І яны ідуць па шляху, па якім ішлі мяцежнікі ў час царавання Саламона. І Саламон не быў няверным, але шайтаны былі няверныімі і вучылі народ мане і абману. І яны трымаюцца таго, што было адкрыта двум анёлам у Вавілоне: Харуту і Маруту. Але гэтыя двое нікога не павучалі, не сказаўшы наперад: "Мы толькі выпрабаванне, такім чынам, не упадайце ў нявер"е". Такім чынам людзі навучыліся, як адрозніваць мужа і жонку, але яны нікому прычынілі гэтым шкоды, хіба толькі па волі Алаха; наадварот, гтыя людзі вучацца таму, што прынясе ім шкоду і не прынясе ім дабра. І яны, бяспрэчна, ведалі, што тым, хто гэтым займаецца не будзе дабра ў Будучым Веку, і, сапраўды, зло ёсць тое, за што яны прадалі свае душы; каб яны толькі ведалі !

102. І калі б яны верылі і рабілі праведна, то, сапраўды, лепшай была б аддзяка Алаха; каб яны толькі ведалі !

103. О вы, верныя, не гаварыце: "Рагіна" / назірай за намі /, а гаварыце: "Унзурна" / глядзі на нас / і слухайце. А няверных чакае пакутлівая кара.

104. Тыя, што не вераць, як і тыя, што атрымалі Кнігу, так і тыя, што далучаюць багоў да Алаха, не хочуць каб паслана было вам што-небудзь добрае ад Госпада вашага; але Алах выбірае для свайго міласэрдзя, каго Ён хоча, і Алах багаты на шчадроты.

105. Калі Мы адмяняем які знак або забываемся на яго, Мы даём лепшы ці падобны на яго. Хіба ты не ведаеш, што Алах можа рабіць усё, што Ён захоча ?

106. Хіба ты не ведаеш, што царства нябеснае і зямля належыць аднаму толькі Алаху ? І няма абароны ці памочніка вам, апрача Алаха.

107. Ці будзеце вы дапытваць вестуна, пасланага вам, як раней дапытвалі Майсея ? І усякі, хто прымае няввер"е у абмен на веру, без сумнення, збіуся з прамога шляху.

108. Многія, каму дадзена Кніга, хочуць проста з зайздрасці ім самім уласцівай, пасля таго як яны пазналі ісціну, пасля таго, як яны паверылі, вярнуць вас зноў у нявер"е. Але даруйце ім і адыдзіце ад іх, пакуль Алах не вынесе Свайго рашэння. Сапраўды, Алах мае уладу рабіць усё, што ён хоча.

109. І трымайцеся малітвы і плаціце закаат, і усё тое дабро, якія вы хочаце самі для сябе, вы знойдзеце у Алаха; сапраўды, Алах бачыць усё, што вы робіце.

110. І яны гавораць: "Ніхто нікола не увойдзе у царства нябеснае, калі не іудзей або не хрысціяніи. І гэта толькі марныя іх жаданні. Скажы: "Прывядзіце вашы доказы, калі вы гаворыце праўду"

111. Не, усякі, хто цалкам падпарадкоўваецца Алаху і робіць дабро, атрымае адплату ад свайго Уладыкі. І яны не будуць ведаць ні страты, ні скрухі.

112. І іудзеі кажуць: "Хрысціянства ні на чым не грунтуецца"; а хрысціяне кажуць: "Іудзейства ні на чым не грунтуецца"; між тым, і тыя і другія чытаюць адну і тую Кнігу. Гэтаксама, як гавораць яны, гаварылі і тыя, у каго не было ведаў. Але Алах разважыць іх у дзень уваскрэсення адносна таго, у чым яны не пагаджаліся.

113. І ці ёсць хто больш несправядлівы, чым той, хто забараняе славіць імя Алаха ў храмах Алаха, або разбурыць іх ? Непрыстойна такім людзям уваходзіць у іх без страху. Іх удзел -- ганьба на гэтым свеце і вялікае пакаранне ў будучым.

114. Алаху належыць і Усход і Захад; так што, у які бок вы не павернецеся, там будзе твар Алаха. Сапраўды, Алах Шчодры і Усяведны.

115. І яны гавораць: "Алах узяў сабе дзіця !". Святы Ён ! Не , усё, што ёсць на нябёсах і на зямлі, належыць Яму. Яму усе падпарадкоўваюцца.

116. Ён ёсць Вынаходнік нябёс і зямлі. Калі Ён захоча чаго-небудзь, Ён гаворыць: "Будзь" -- і яно ёсць.

117. І тыя, хто не мае ведаў, гавораць: "Чаму Алах не прадракае нам і не пасылае нам знакі ?" Падобнае казалі і іншыя раней. У іх аднолькавыя сэрцы. Мы зрабілі знакі яснымі для тых, хто цвёрда верыць.

118. Мы паслалі цябе з Ісцінай, як носьбіта добрай весткі і перасцярогі. І цябе не будуць пытаць пра насельнікаў пякельнага агню.

119. І ні іудзеі, ні хрысціяне не будуць задаволены табою,

калі ты не прымеш іх веру. Скажы: "Сапрауды, толькі павучанні Алаха -- гэта павучанні. І калі ты будзеш мець злыя жаданні пасля гэтага ведання, якое табе было дадзена, Алах не падаруе табе ні сябра, ні памочніка.

120. Тыя, каму падаравалі Кнігу, трымаюцца яе, як належыць; гэта тыя, што вераць у яе. Але тыя, што у яе не вераць, будуць мець страту.

121. О вы, сыны Ізраіля ! Помніце пра Мае міласці, якімі Я надзяліу вас, і пра тое, што Я вас узвялічыу над другімі народамі.

122. І бойцеся таго дня, калі ні адна душа не зможа замяніць другой душы, і калі ад яе не возьмуць ніякага выкупу, і ніякае заступніцтва не прынясе карысці, і не будзе ім дапамогі.

123. І успомніце пра той час, калі Уладыка яго выпрабоуваў Аураама нейкімі загадамі, якія той выканау. Ён сказау: "Я зраблю цябе правадыром людзей". Аураам спытау: "І з маіх нашчадкау ?" Ён сказау: "Мой запавет не уключае у сябе грэшнікау".

124. І успомніце пра той час, калі мы зрабілі Дом прыстанішчам для чалавецтва і мясцінаю бяспекі, і лічыце месца Аураама малітоуным месцам. І Мы сказалі Аурааму і Ісмаілу: "Ачысціце Мой Дом для тых, што абходзяць вакол яго, і тых, што застаюцца унутры для пакалення і што б"юць паклоны і падаюць ніц, выконваючы малітву".

125. І успомніце, як Аураам сказау: "Уладыка мой, зрабі гэта месца горадам мірным і надзялі пладамі тых насельнікау, што вераць у Алаха і у"Апошні Дзень". Ён сказау: "І таго, хто не верыць, Я таксама надзялю дабротамі на кароткі час; затым Я выганю яго для пакарання агнём, і гэта будзе благое месца".

126. І успомніце пра той час, калі Аураам і Ісмаіл зрабілі падмурак Дома з малітваю: "Уладыка наш, прымі гэта ад нас, бо Ты Усечуйны, Усеведны.

127. "Уладыка наш, зрабі нас пакорлівымі Табе, а з нашых нашчадкаў зрабі пакорлівы Табе народ. І пакажы нам нашы шляхі пакланення, і звярніся да нас з міласэрдзем; бо Ты Многавыбачальны і Міласэрны.

128. "І, Уладыка наш, вылучы сярод іх вестуна, які аб"яуляў бы ім Твае знакі і вучыў бы іх Кнізе і Мудрасці і ачысціў бы іх; сапраўды, Ты ёсць Вялікі, Мудры.

129. І хто адвернецца ад веры Аўраама, хіба толькі слабы розумам ? Яго Мы выбралі ў гэтай грамадзе, і ў будучай, сапраўды, будзе ён сярод праведных.

130. Калі Уладыка яго сказаў яму: "Пакарыся", ён сказаў: "Я пакарыўся Уладыку свету".

131. Гэта самае завяшчаў Аўраам сваім сынам, а таксама Іакаў, гаворачы: " О сыны мае, сапраўды, Алах выбраў гэтую веру для вас; дык не дапусціце, каб смерць заспела вас не іначай, як у пакорнасці".

132. Ці былі вы сведкамі смерці Іакава, калі ён сказаў сынам: "Чаму вы будзеце пакланяцца пасля мяне ?" Яны адказалі: "Мы будзем пакланяцца Богу твайму, Богу бацькоў тваіх, Аўраама і Ісмаіла і Ісаака, Адзінаму Богу, і Яму мы пакараемся".

133. Гэтыя людзі памерлі; іх доля тое, што яны заслужылі; і вы атрымаеце па заслугах, і ў вас не спытаюць адказу за тое, што яны зрабілі.

134. І яны гавораць: "Станьце іудзеямі або хрысціянамі, каб вы былі навучаны праведнікамі. Скажыце: "Не, вызнавайце веру Аўраама які заўсёды звяртаўся да Бога, ён не быў з тых, хто ўзвышае багоў побач з Богам.

135. І скажыце: "Мы верым у Алаха і ў тое, што было адкрыта нам і што адкрыта Аўрааму і Ісмаілу і Ісааку і Іакаву і яго дзецям, і што было падаравана Майсею і Ісусу і што было падаравана

усім другім прарокам ад іх Уладыкі. Мы не робім розніцу між імі; і Яму мы пакараемся".

I36. І калі яны вераць так, як мы верылі, тады яны навучаны праўдзіва; але калі яны павернуць назад, калі яны шукаюць спосаб, як зрабіць раскол, і Алах, без сумнення, будзе дастатковай падтрымкай супроць іх, бо Ён Усечуйны і Уседны.

I37. Скажыце: "Мы прымем веру Алаха; і хто перавысіў Алаха ў выкладанні веры ? І яму аднаму мы пакланяемся".

I38. Скажыце: "Ці будзеце вы спрачацца з намі пра Алаха, калі Ён наш Уладыка і ваш Уладыка ? І за намі нашы справы, а за вамі — вашы справы; і Яму аднаму мы шчыра прысвячаем сябе".

I39. "Ці скажаце вы, што Аўраам, і Ісмаіл, і Ісаак і яго дзеці былі іудзеі або хрысціяне ? " Скажыце: "Хто лепш ведае, вы ці Алах ? І хто можа быць больш няправедны, чым той, хто хавае сведчанне, атрыманае ім ад Алаха ? І Алах ведае тое, што вы робіце.

I40. Гэта людзі, што памерлі; іх доля тое, што яны заслужылі, і вы атрымаеце тое, што заслужылі; і ніхто не спытае ў вас справаздачы за тое, што яны зрабілі.

I4I. Неразумныя скажуць: "Што адвярнула іх ад Кыблы, за якім ішлі яны ?" Адкажыце: "Алаху належыць Усход і Захад. Ён скіроўвае на ісцінны шлях любога, каго Ён захоча.

I42. Такім чынам Мы зрабілі вас вялікім народам, каб вы маглі быць ахоўнікамі людзей і Пасланец Божы мог быць ахоўнікам вашым. І мы не вызначылі Кыблы, да якой ты ідзеш, хіба толькі для таго, каб мы маглі адрозніць таго, хто ідзе за Пасланнікам Божым ад таго, хто паварочвае назад. І гэта сапраўды цяжка, але не тым, каго накіроўвае Алах. І не пакіне Алах веру нашу. Сапраўды, Алах спагадлівы і літасцівы да людзей.

/ Працяг будзе /

## АЗАН

Азан — призыв мусульман к молитве. Он состоит из ряда формул, предписанных для каждой из пяти ежедневных обязательных молитв, совершаемых в четко определенное время. Азан читается с минарета мечети муэдзином.

Азан является вступительной частью каждой молитвы, за исключением погребальной молитвы, молитв в праздники ʿид аль-фитр и ʿид аль-адха, молитвы при солнечном затмении, молитвы о ниспослании дождя и различных молитв сунны.

### Текст азана

| | |
|---|---|
| *Алла́ху а́кбар. Алла́ху а́кбар* | اَللّٰهُ اَكْبَرْ . اَللّٰهُ اَكْبَرْ |
| *Алла́ху а́кбар. Алла́ху а́кбар.* | الله اكبر . الله اكبر |
| *А́шхаду ан ля иля́ха и́лля ллах,* | اَشْهَدُ اَنْ لَا اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهُ |
| *А́шхаду ан ля иля́ха и́лля ллах.* | اشهد ان لا اله الا الله |
| *А́шхаду а́нна Муха́ммадар расу́лу ллах.* | اَشْهَدُ اَنَّ مُحَمَّدًا رَسُولُ اللّٰهِ |
| *А́шхаду а́нна Муха́ммадар расу́лу ллах.* | اشهد ان محمدا رسول الله |
| *Ха́йиа ’а́ля ç-çала́т.* | حَيَّ عَلَى الصَّلَاةِ |
| *Ха́йиа ’а́ля ç-çала́т,* | حى على الصلاة |
| *Ха́йиа ’а́ля ль-фаля́х.* | حَيَّ عَلَى الْفَلَاحِ |
| *Ха́йиа ’а́ля ль-фаля́х.* | حى على الفلاح |
| *Алла́ху а́кбар. Алла́ху а́кбар.* | الله اكبر . الله اكبر |
| *Ля иля́ха и́лля ллах.* | لَا اِلٰهَ اِلَّا اللّٰهِ |

### Перевод азана

**Аллах велик, Аллах велик, Аллах велик, Аллах велик! Свидетельствую, что нет бога, кроме Аллаха. Свидетельствую, что нет бога, кроме Аллаха. Свидетельствую, что Мухаммад посланник Аллаха. Свидетельствую, что Мухаммад посланник Аллаха. Спешите к молитве! Спешите к молитве! Спешите к спасению! Спешите к спасению! Аллах велик, Аллах велик! Нет бога, кроме Аллаха!**

---

Калі у мусульманскай сям"і нарадзілася дзіця, то яго трэба паазаніць / гэта мусульманскае хрышчэнне / . Нельга дапусціць, каб немаулё памерла без азану, бо бацькам за гэта будзе вялікі грэх. Азаніць можа імам, муэдзін, любы навучоны мусульманін, нават дзед ці бабка дзіцяці. Азан шэпчуць дзіцяці у правае вушка / словы надрукаваны вышэй/, называюць мусульманскае імя і дадаюць: "Памятай сваё імя аж да Суднага Дня !"

# СЦЯПАН АЛЕКСАНДРОВІЧ

Крытык, літаратуразнавец, празаік. Заслужаны работнік культуры Беларусі / 1984 /. Доктар філалагічных навук / 1972 /. Член Саюза пісьменнікаў з 1955.

Нарадзіўся 15.12.1921 у г.п.Капыль Мінскай вобл. у сям"і рабочага-гарбара. Пасля заканчэння Капыльскай сярэдняй школы / 1939 / паступіў на філфак БДУ, быў прызваны ў Чырвоную Армію. У час Вялікай Айчыннай вайны быў у Іране, прымаў удзел у Керчанска-Феадасійскай аперацыі і ўзяцці Керчы і Феадосіі. Быў цяжка паранены / 16.5.1942 / і ўзяты ў палон / 24.5.1942 /. Уцёк у жніўні 1942, вярнуўся на радзіму. З мая 1943 сувязны партызанскай брыгады імя Чапаева № 27 / Капыльскі раён /, выканаў некалькі заданняў.

З 1944 выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Беніцкай сямігадовай школе Маладзечанскага раёна, затым у Наваельненскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна, у Навагрудскай сярэдняй школе № 1 Гродзенскай вобл. У 1953 -- 58 працаваў выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума ў Мінску. Адначасова вучыўся завочна на філфаку БДУ імя Леніна / скончыў у 1950 /. У 1958 -- 63 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР і музея Якуба Коласа. З 1963 дацэнт, з 1974 прафесар БДУ. Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Славы III ступені, медалямі, Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Першыя крытычныя артыкулы і краязнаўчы нарысы надрукаваў у 1946 у газ. "Літаратура і мастацтва" і інш. Асноўныя працы С.Александровіча прысвечаны даследаванню шляхоў развіцця і фарміравання беларускай дакастрычніцкай літаратуры, яе творчых узаемасувязей з брацкімі славянскімі літаратурамі, а таксама гісторы

беларускага кнігадрукавання і перыядычнага друку. Аўтар краязнаў ча-біяграфічных нарысаў пра беларускага першадрукара і асветніка Ф.Скарыну, пра Ф.Багушэвіча, Я.Коласа, Я.Купалу, Ц.Гартнага, К.Чорнага і інш. беларускіх пісьменнікаў, аповесцей пра жыццё і творчасць Я.Коласа / "Ад роднае зямлі ...", 1961, і "На шырокі прастор", 1972 /, аповесці "Далёкія зарніцы" / 1967 /. Падрыхтаваў да друку кнігі твораў Ф.Багушэвіча, К.Каганца, Цёткі, А.Паўловіча і інш.

Памёр 1.5.1986. Пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

---

## РАДЗІМА МАЯ -- КАПЫЛЬ.

/ урывак з кнігі Сцяпана Александровіча "Кнігі і людзі" /

Радзіма мая -- старадаўні Капыль, што раскінуўся па маляўнічых пагорках, між зялёных лясоў і ўрадлівых палеткаў Случчыны. Нарадзіўся я 15 снежня 1921 года. Бацькі -- беларускія татары. Можа гэта гучыць крыху дзіўна, але сапраўды так.

У Капылі здаўна жыла жменька нашчадкаў мангольскіх плямён. Сядзібы іх туліліся на дзвюх вулічках -- Татарскай і Замкавай, ля плыценькай Каменкі, побач з высокім замчышчам / паводле падання, усе мясцовыя татары некалі складалі асабістую ахову капыльскага князя /. У этнаграфічным абліччы мясцовых татар захаваліся яшчэ ўсходнія рысы, сяк-так ляпелі свае звычаі і абрады, але родную мову яны ўжо даўно страцілі і гаварылі па-беларуску. Большасць сем"яў выраблялі аўчыны і скуры, некаторыя займаліся агародніцтвам ці проста земляробствам. Увогуле капыльскія татары цесна зжыліся з мясцовым насельніцтвам і ў сваім штодзённым побыце мала чым адрозніваліся ад беларусаў.

# ПЕДАГОГ І ВУЧОНЫ

## /Да 70-годдзя Сцяпана Александровіча/

Яго трэба было бачыць у працы, у турботах, каб ведаць цану кожнай новай кнігі. Заўсёды неспакойны за лёс літаратуры Сцяпан Хусейнавіч Александровіч імкнуўся сабраць такія аргументы, якія б пераканалі нават самага зацятага артадокса. Ён не цярпеў фальшу і шукаў магчымасць сказаць праўдзівае слова ў абарону той ці іншай постаці, незаслужана забытай, а яшчэ горш сумысля абылганай. Яго аўтарытэт у беларускім літаратуразнаўстве і сёння не знізіўся. Прыпомнім толькі адзін факт — змаганне вучонага за аб"ектыўнае асвятленне ролі "Нашай нівы" ў адраджэнскім працэсе Беларусі пачатку XX ст. Які тады гвалт узнялі "калпакі" і "падкалпачнікі" — апалагеты безнацыянальнага развіцця Беларусі.

У навуку Сцяпан Александровіч прыйшоў ужо з багатым жыццёвым вопытам. На яго долю выпалі цяжкія гады вайны. Як ён сам пісаў: "Жыццёвы тэмп быў незвычайны: у 18 я быў у арміі, у 20 — на фронце, у 21 — у палоне. Рашыўся на пабег з канцлагера. Толькі за другім разам удалося. Увесь збіты, хворы, самлелы ледзве дабраўся дамоў. Трохі адышоў і напытаў дарогу да беларускіх партызан". Пра гэта ён пасля раскажа ў амаль дакументальнай аповесці "Далёкія зарніцы".

На пытанне, як Сцяпан Хусейнавіч дайшоў да вялікай літаратуры, ён адказаў: "Радзіма мая — Капыль. Сям"я — мясцовыя татары, якія даўно аселі на Беларусі і займаліся пераважна гарбарным рамяством. Бацька быў добра знаёмы з Цішкам Гартным. Сам я яго не раз бачыў. Ён улетку не раз бываў у сваёй маці. Нашай недалёкай суседкай была сястра Алеся Гурло. Я некалькі год пасвіў яе карову і не раз сустракаў самога паэта. У мястэчку жыў селянін Рыгор Чарнушэвіч — колішні супрацоўнік капыльскіх рукапісных часопісаў, ён цікава расказваў пра сваіх землякоў-літаратараў. Мабыць, усё гэта з маленства і выхоўвала цікавасць да літаратуры".

Значнае месца ў жыцці С. Александровіча заняла школа. Якраз і мая першая сустрэча з ім адбылася ў Насілаўскай сямігодцы. Так сышлося, што я тады прыйшоў у першы клас, а ён першы раз прыйшоў настаўнікам у школу. Вопратка ў яго, як і ў іншых

нашых настаўнікаў, была далёка не інтэлігенцкая. Усе мы тады былі людзьмі з пажарышчаў. Запомніліся ўсходнія рысы твару маладога настаўніка. Праўда, праз колькі дзён яго ўжо больш не бачылі. Пазней я дапытаўся ў Сцяпана Хусейнавіча, ці працаваў ён у Насілаве.

— Такое было. Але праз колькі дзён мяне перавялі ў Беніцу Маладзечанскага раёна. Прыгожая мясцінка з выдатнымі помнікамі архітэктуры: касцёлам і царквой, з панскімі будынкамі. Запомніў там расказы старога заходнебеларускага настаўніка Зыдара Вяля. Ад яго я пачуў пра Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, П. Мятлу і іншых дзеячоў. Здароўе пачало здаваць і я праз паўгода вярнуўся ў Мінск. Лячыўся. А тады паехаў працаваць у сярэднія школы Наваельні і Навагрудка.

С. Александровіч педагагічную працу спалучаў з творчай. У часопісе "Беларусь" раз-пораз з"яўляліся краязнаўчыя нарысы. Потым захапіўся літаратуразнаўчай праблематыкай. А паступіўшы ў 1953 г. ў аспірантуру ён поўнасцю прысвяціў сябе даследчыцкай дзейнасці, адкрываючы новыя факты, новыя імёны, новыя творы літаратуры. Ужо ў першай кнізе "Незабыўнымі сцежкамі" /1959/ пісьменнік даў нам цікавыя біяграфічныя нарысы Паўлюка Багрыма, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багішэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і іншых. Далей вучоны ўглыбляўся ў даследаванне лёсу беларускага кнігадрукавання. Пабываўшы за мяжой, С. Александровіч прывёз новыя знаходкі з жыцця Ф. Скарыны, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, М. Багдановіча, А. Гурыновіча..., што значна ўзбагацілі наша літаратуразнаўства.

Можна сказаць, што ў свой час вучоны выбраў адзіна правільны шлях і назаўсёды звязаў сябе з даследаваннем беларускай літаратуры — святлейшыя хвіліны яго душы.

Некалькі разоў і мне давялося назіраць як Сцяпан Хусейнавіч працаваў. Жылі мы аднойчы з ім у пісьменніцкім гатэлі на паддашку /гэта ён і для мяне арганізаваў месца/. Рабочы дзень вучонага доўжыўся да закрыцця архіва, а тады пераходзіў яшчэ ў акадэмічную бібліятэку. Спускаўся з лесвіцы ўжо вельмі стомлены, а ўнутрана задаволены новымі знаходкамі. Ім пераатрымана ў руках тысячы дакументаў, каб паставіць усе кропкі над "і".

Ён ніколі не спакушаўся на лёгкія шляхі, а выбіраў — сумленныя, нават калі яны былі цяжкімі.

Самай выдатнай з"явай у нашым літаратуразнаўстве стала манаграфія С. Александровіча "Пуцявіны роднага слова" — вынік шматгадовага вывучэння і падагульнення гістарычнага працэсу развіцця літаратуры і кнігадрукавання, на яскравых прыкладах паказаў складаны лёс нацыянальнай спадчыны, друкаванага слова. Даследчык упершыню паказаў выключнае значэнне часопіса "Гоман" і іншых гектаграфічных выданняў. Ён адзін з першых заступіўся за добрае імя "Нашай долі" і "Нашай нівы". Мяркую, што пра гэта трэба будзе сказаць асобна.

Сцяпан Александровіч здзівіў усіх кнігай пра абсалютна забытую постаць грамадска-літаратурнага руху першай паловы XIX ст. Аляксандра Незабытоўскага з-пад Нясвіжа. Ён першым узяўся за распрацоўку літаратурна-мастацкага выкладання біяграфіі Якуба Коласа /кнігі "Ад роднае зямлі", "На шырокі прастор", "Крыжавыя дарогі"/. Ён жа аўтар самых розных кніг і дапаможнікаў. Настаўнікі ўжо не раз дзякавалі яму за цудоўныя кнігі. І хоць Сцяпана Александровіча ўжо пяць гадоў як няма з намі, але зробленае ім вельмі хораша працуе на наш адраджэнскі дзень.

Будучы цяжка хворым чалавекам, Сцяпан Александровіч пры кожнай сустрэчы дзяліўся сваімі планамі, падказваў іншым шляхі пошукаў. Ён, напрыклад, прыпамінаў, як аднойчы прыпазніўся выехаць у Маскву, дзе гадоў 35 назад жыла сваячка ці сяброўка Цёткі. А як дабраў час выехаць, бабулька памерла і лёс здымкаў паэткі, што прыпасены былі для даследчыка, невядомы. Ёсць загадкі ў біяграфіі Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча і іншых, так што жадаў маладзейшаму пакаленню вучоных зрабіць плённы працяг яго жыццёвых клопатаў, каб гаворачы словамі Я. Купалы, "гэты скарб не збрыў дзе проч, ці трутнем ён не з"едзены".

## Р У К І   Н А С Т А Ў Н І К У

/Слова на ўспамін пра Сцяпана Александровіча/

Пяць гадоў таму, першага траўня 1986 года, беларуская даследчыцкая думка страціла аднаго з сваіх піянераў-першапраходцаў — Сцяпана Хусейнавіча Александровіча. Аднак пры жыцці

так і цяпер у рэтраспектыўным пераліку айчынных навукоўцаў-архівістаў ягонае імя нязменна прыгадваецца першым. Прафесар Александровіч заслужыў гэта не адно з увагі на алфавітны парадак.

Свае даследчыцкія пошукі Сцяпан Хусейнавіч распачаў адразу па вайне. Першыя навуковыя публікацыі тагачаснага настаўніка беларускай мовы і літаратуры з Гродзеншчыны датаваныя траўнем—чэрвенем 1946 года. Бачыце, той апошні ў жыцці Александровіча 1986 год быў юбілейным: 40 вёснаў няспыннай працы за пісьмовым сталом.

З вышыні сённяшніх дзён, узіраючыся ў далёкія паваенныя гады, яскрава ўсведамляецца адметнасць тагачаснай працы даследчыка: яе саматужны ўзровень. Давайце на хвіліну вернемся ў той няпросты час, калі найчасцей думалася пра кавалак хлеба, чым пра захаванне, а тым больш — пошук невядомых рукапісаў. Нацыянальныя кнігасховішчы, біблятэкі разрабаваныя, універсітэцкія і навуковыя будынкі разбомбленыя, з усходу і захаду па чыгуначных рэйках у Беларусь з глухіх сібірскіх гарадкоў і напаўразбураных падвалаў вызваленых ад фашыстаў еўрапейскіх сіці толькі-толькі пачыналі вяртацца першыя тысячы архіўных папак. Спатрэбіцца не адно дзесяцігоддзе, пакуль скарбы архіўных сховішчаў стануць прыдатнымі для скрупулёзнай працы нацыянальных даследчыкаў. І першая газетная публікацыя ў "ЛіМе" мела сімвалічную назву: "Больш увагі літаратурнай спадчыне" /пакуль што як "ліст чытача"/.

А тады Сцяпан Александровіч чакаць не стаў: інтуітыўнае адчуванне прыроджанага даследчыка падказала яму звярнуцца да ўнікальнага гістарычнага дакумента: чалавечай памяці. Ён пайшоў на сустрэчы з аднавяскоўцамі Паўлюка Багрыма, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, пачаў занатоўваць іх каштоўныя, а сёння разумеем — бясцэнныя, успаміны пра пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Так нарадзілася першая кніга "Незабыўнымі сцежкамі" /1959/, потым другая, за імі — дзесяткі. Творчасць Александровіча — прыклад зайздроснай працавітасці, закладзенай у крыві хлапчука з татарскай сям"і, дзе разам з бацькамі-гарбарамі падлетак Сцяпан мусіў падымацца з усходам сонца /калі не скуры вырабляць, дык хоць статак пас-

віць/ ды класціся пасля заходу. І нездарма бібліяграфічны даведнік "Працы кафедры беларускай літаратуры" засведчыў: гэтулькі публікацый /169/ не меў ніводзін з універсітэцкіх калегаў, хоць некаторыя з іх распачалі свой пісьменніцкі шлях яшчэ да вайны. Я не ведаю, якімі крытэрыямі кіраваўся складальнік, тадышні малады дацэнт Вячаслаў Рагойша, і сам Александровіч, але на момант складання /1968 год/ не ўлічана яшчэ сотня пазіцый.

Ды пакінем убаку статыстыку, бо здаўна вядома: не ўсё вымяраецца колькасцю. За чатыры дзесяцігоддзі даследчык-практык узняўся да небывалага тэарэтычнага асэнсавання карціны гісторыі роднай літаратуры з усімі існуючымі на ёй белымі плямамі. Неаднойчы я станавіўся міжвольным сведкам, як у цішы ўтульнага хатняга кабінета на вуліцы Адаеўскага ў Менску, у кватэры, што няпроста дасталася прафесару Александровічу, мой нязменны навуковы кіраўнік курсавых, дыпломнай а пасля і кандыдацкай пачынаў упэўнена пералічваць тыя ці іншыя дакументы, якія павінны ляжаць на паліцах замежных архіўных сховішчаў. Яго вабілі архівы Варшавы і Кракава, Прагі і Падуі, Рыма і Упсалы, Лондана і Капенгагена... І ці мала дзе яшчэ марыў папрацаваць вучоны-руплівец, вярнуць роднай Беларусі вырваныя старонкі з кнігі Гісторыі. Шмат чаго з задуманага яму проста нельга было здзейсніць, бо ў разгорнутай анкеце для працяглых замежных камандзіровак у графе "Ці траплялі Вы або хто з сваякоў у ваенны палон" ён не мог паставіць прочырк: падчас імклівай высадкі марскога дэсанта пры Керчанска-Феадасійскай аперацыі травеньскай ноччу радавы Александровіч быў цяжка паранены, а праз тыдзень, 24 траўня 1942 года, трапіў у варожы палон. На ўсё жыццё засталіся ў ягоных вушах адчайныя крыкі юначых вуснаў, калі над марскімі хвалямі на розных мовах лунала развітальнае "ма-а-ма-а!" Мусульманская вера бацькоў ўратавала яго, вязня крываражскага канцэнтрацыйнага лагера, калі адзін з барачных фюрэраў ставіў да сцяны, істэрычна выдыхаючы ў твар: "Юдэ!!". Жыццё яму вярнуў працытаваны на памяці ўрывак з Кур"ана.

У літаратуры ён застаўся салдатам-дэсантнікам, чарнаробам, здабытчыкам невядомых фактаў, якому лёсам наканавана першым пракладваць шляхі ў невядомае, роднае, аднак забытае-страча-

нае. З блізкіх і далёкіх камандзіровак ён прывозіў новыя і новыя факты, якія спакваля, праверыўшы, узважыўшы ўводзіў у навуковы ўжытак. Ён нават не даваў разгарэцца справядліваму агню абурэння, калі ў мастацтвазнаўчым нарысе пра Францыска Скарыну чытаў жыўцом узятыя старонкі з сваіх даследаванняў.

Дыяпазон навуковых інтарэсаў Сцяпана Хусейнавіча не можа не ўражваць сваёй шырыёй: ад устанаўлення сапраўднага імя Скарыны /Францыск а не Георгій/ да напісання творчага партрэта калегі-паплечніка Генадзя Кісялёва.

Праз усё жыццё прафесар Александровіч заставаўся верным яшчэ аднаму прызванню: Настаўніка. Незвычайная сціпласць, стрыманасць суседзіла ў ягоным сэрцы з суровым непрыманнем хлусні, няпраўды, фальсіфікацыі. І за гэта яго любіла і паважала студэнцкая моладзь. Хоць не сакрэт, для тых, хто спрабаваў адмахнуцца ад самастойнай думкі, ад пошуку, здзіраючы курсавыя ці дыпломныя выкладчык Александровіч быў прынцыповы. У жалобную развітальную хвіліну, узіраючыся ў такі блізкі твар на фоне кветак нейк саграваля душу думка, што яму і пры жыцці прынасілі кветкі. Тыя, хто здаваў экзамены, у каго ён кіраваў курсавымі і дыпломнымі, хто працаваў з ім на адной кафедры, хто зведаў з ім агонь апошняй вайны і таксама выжыў, каб працягваць жыццё на зямлі.

Не толькі ў сценах універсітэта выхоўваў ён будучыню беларускай інтэлігенцыі. Ён здолеў і ва ўласнай сям"і ўзгадаваць паслядоўнікаў сваёй нялёгкай справы і па праву ганарыўся тым.

Пяць гадоў таму смерць распарадзілася прынесці Сцяпану Александровічу букет ружаў. Я ўдзячны лёсу, што апярэдзіў яе і прынёс тады кветкі свайму настаўніку не ўпершыню.

## БІТВЫ ПАД МАГІЛЬНАМ І КОЙДАНАВАМ

/ З кнігі М.І.Ермаловіча " Па слядах аднаго міфа", выданай у Менску у 1989 г., глава 5-я, стар. 51 — 54, урывак зроблены са згоды аутара /.

Мангола-татарскае нашэсце і нямецкая агрэсія ў сучасных падручніках па гісторыі і навуковых даследаваннях паказваюцца як фактары, што нібыта паспрыялі захопу беларускіх земл. ў Літвой: «Барацьба Русі з татара-мангольскімі захопнікамі значна аблегчыла літоўскім князям ажыццяўленне іх захопніцкай палітыкі ў адносінах да рускіх земляў. Ва ўмовах татара-мангольскай няволі некаторыя феадалы Русі ў асобе Літоўскай дзяржавы бачылі сілу, якая не толькі можа даць адпор татарскім і нямецкім захопнікам, але і разам з тым будзе садзейнічаць далейшаму ўмацаванню іх панавання над сялянскімі масамі»[222]. Прыблізна тое ж самае сказана і ў другім даследаванні: «Феадалы, якія прыйшлі да ўлады ў Аўкштайціі, пайшлі на змову з феадаламі значна больш развітай Беларусі, напалоханымі Ардой і Ордэнам. Падзяліўшыся рэнтай з літоўскімі пануючымі кланамі, беларускія феадалы ўвайшлі ў яго склад»[223]. Але ж добра вядома, што Беларусь, за выключэннем яе крайніх паўднёвых мясцін, не ведала мангола-татарскага нашэсця. Значыць, феадалам Беларусі не было ніякай патрэбы шукаць абароны ў Літоўскай дзяржавы ад татараў. Больш таго, паводле сведчання летапісаў, літоўскія князі ніколі не атрымлівалі ніякіх перамог над мангола-татарамі.

Праўда, у вядомай «Хронікі Быхаўца» апавядаецца пра дзве бітвы, у якіх нібыта былі разгромлены літоўскімі войскамі татары,— пад Магільным і пад Койданавам. Аднак шэраг акалічнасцей прымушае сумнявацца ў тым, што яны ў сапраўднасці былі.

Вось што гаворыцца пра Магільнянскую бітву. Пасля таго як літоўскі князь Рынгальт немалы час пракняжыў у Новагарадку, рускія князі Святаслаў Кіеўскі, Леў Уладзімірскі і Дзмітрый Друцкі рашылі выгнаць яго з Новагарадка. Узяўшы сабе на дапамогу ад цара заволжскага некалькі тысяч татараў, яны рушылі на Новагарадок. І вось Рынгальт сустрэў іх на Нёмане, ля Магільна (зараз на тэрыторыі Уздзенскага р-на, Мінскай вобл., пераз райменавана ў Нёман), і ў лютым баі, які працягваўся цэлы дзень, разбіў сваіх праціўнікаў, атрымаў вялікую перамогу і з багатай здабычай вярнуўся ў Новагарадок[224]. У «Хроніцы Быхаўца» не ўказана, калі адбылася гэта падзея. У ранейшай гістарычнай літаратуры яна адносілася да 1235 г.[225] Але прыняць гэтую дату нельга, бо тут упамінаюцца татары, якія з'явіліся на Русі толькі ў канцы 30-х гадоў XIII ст. Апроч таго, Рынгальт не мог княжыць у 1235 г. у Новагарадку, бо ў гэты час тут кня-

жыў Ізяслаў, як сведчыць Іпацьеўскі летапіс. Сярод князёў, што ішлі на Рынгальта, упамінаецца Леў Уладзімірскі. Гэта магло б дапамагчы ўстанавіць найбольш верагодную дату гэтай падзеі, калі б яна сапраўды была. У Іпацьеўскім летапісе пад 1274 г. сказана, што шэраг рускіх князёў, сярод якіх быў і галіцкі (а не ўладзімірскі) князь Леў, разам з татарамі ішлі на Навагарадок[226], які ў той час быў сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Паколькі рускія князі і татары рухаліся на Навагарадок ад Слуцка[227], то іх шлях мог праходзіць і праз Магільна. Аднак летапіс, які падрабязна асвятляе гэты паход рускіх князёў і татараў, нічога не гаворыць пра бітву пад Магільнам. Як мы ведаем, у «Хронiцы Быхаўца» сказана, што гэта бітва была вялікай і што рускія і татары пацярпелі страшэннае паражэнне, і яны, відома, пасля такой няўдачы не маглі б ісці далей Навагарадка. А між тым летапіс гаворыць, што яны, перайшоўшы р. Сэрвеч, падышлі да Навагарадка і ўзялі яго акольны горад. Выдуманым з'яўляецца і сам князь Рынгальт, бо нідзе ў іншых крыніцах ён не ўпамінаецца. Апроч таго, «Хроніка Быхаўца» называе яго вялікім князем, але ў 1274 г. ён не мог быць такім, бо ў гэты час у Навагарадку княжыў Трайдзень. Не мог быць ён і бацькам Міндоўга, бо апошні загінуў у 1263 г., а ў «Хронiцы Быхаўца» сказана, што Міндоўг стаў княжыць пасля смерці Рынгальта. Усё сказанае не пацвярджае таго, што была бітва пад Магільнам, у прыватнасці, у 1274 г., найбольш верагодным для яе, асабліва калі ўлічыць, што ў «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай» яна значыцца пад 1284 г.[228] (у гэтай крыніцы многія падзеі зрушаны на 10—15 гадоў наперад). Тым не менш усё гэта не выключае таго, што гэтая бітва была. Магчыма, што яна была калі-небудзь, але яе апісанне ў «Хроніцы Быхаўца» з'яўляецца скажоным да непазнавальнасці, як гэта адбылося і з бітвай пад Гарадцом у 1161 г., аб чым мы гаварылі раней. Не выключана, што і бітва пад Магільнам адбылася таксама ў полацкія часы, а пасля была прыпісана літоўскім князям.

Малаверагодная бітва пад Койданавам, бо звесткі пра яе яшчэ больш супярэчлівыя. У «Хроніцы Быхаўца» сказана, што заволжскі татарскі цар Балаклай сабраў вялікую раць і пайшоў на Русь. А Вялікі князь Скірмант, сабраўшы свае войска ў Койданаве, перамог усю раць татарскую і самога цара забіў[229]. У літаратуры гэта падзея адносілася да 1241 г.[230] Апроч таго, указваецца яшчэ адна бітва пад Койданавам, у якой нібыта Міндоўг у 1249 г. разбіў татараў, якіх узначальваў Кайдан, і яго саюзнікаў галіцка-валынскіх князёў Данілу і Васілька. Прычым сцвярджаецца, што Кайдан загінуў тут, і таму пайшла назва «Койданаў», які да гэтага называўся Кругагор'ем. Гэта найбольш пашыраная версія, і яна нават

увайшла ў сучасныя падручнікі па гісторыі Беларусі [231]. У «Запісках Кацярыны II» прыведзены звесткі аб бітве пад Койданавам у 1276 г., якія нагадваюць падзеі бойкі 1241 г.

Паколькі ўсе гэтыя бітвы звязаны з татарамі, то яны не маглі адбыцца ні ў 1241, ні ў 1249 гг., бо, як паказваюць даследаванні, першае ўварванне татараў на тэрыторыю Беларусі адбылося ў 1258 г.[232] Бітву 1241 г. мы наогул павінны адкінуць як выдуманую, бо ніколі не было ні вялікага літоўскага князя Скірманта, ні татарскага хана Балаклая. Нешта ёсць падобнае ў падзеях 1249 і 1258 гг. Сапраўды, князем літоўскім тады быў Міндоўг, разам з татарамі ішоў валынскі князь Васілька (яго брат Даніла, прыкінуўшыся хворым, ухіліўся ад гэтага паходу). Але татараў узначальваў не Кайдан, а Бурундай. і, што самае важнае, ніякай перамогі Міндоўг не атрымліваў: татары на чале з Бурундаем без супраціўлення занялі землі Літоўскую і Нальшчанскую (нагадаем, што гэта тэрыторыя на захадзе сучаснай Беларусі). Гэта пацвярджае і Наўгародскі I летапіс, у якім сказана, што татары ўзялі ўсю зямлю Літоўскую, а саміх пабілі [233].

Трэба зазначыць, што ёсць яшчэ сумненні ў праўдзівасці існавання Кайдана. Сярод татарскіх ханаў, военачальнікаў і ваяводаў ён не значыцца [234]. Праўда, у татарскага хана Менгу Цімура, які цараваў у Залатой Ардзе з 1266 па 1280 г., быў сын Кадан [235]. Менавіта ў Менгу Цімура галіцкі князь Леў Данілавіч прасіў дапамогі ў паходзе на Новагарадок. У 1274 г. Менгу Цімур даў татарскае войска, але яго ўзначальваў не Кадан, а ваявода Ягурчын [236]. Паводле Галіцка-Валынскага летапісу, татары хадзілі на Новагарадок і ў 1277 г. Таму можна меркаваць, што яны ішлі праз Койданаў. Але, па-першае, пацярпеўшы там паражэнне, яны б не пайшлі далей. Па-другое, узначальваў гэта войска татараў не Кайдан, а ваявода Мамшэй [237]. Усё адзначанае сведчыць, што Койданаўскай бітвы не магло быць ні ў 1274, ні ў 1276, ні ў 1277 гг. Апрача таго, тапонім «Койданаў» на Беларусі не адзін (населены пункт з такой назвай быў таксама недалёка ад г. Паставы [238], што таксама ставіць пад сумненне паходжанне гэтай назвы ад імя татарскага хана.

З вышэйсказанага вынікае, што Магільнянская і Койданаўская бітвы — гэта хутчэй за ўсё міфы, створаныя ў XVI ст., для ўзвелічэння літоўскіх князёў, якія быццам толькі адны маглі супрацьстаяць мангола-татарскім заваёўнікам, чаго ў сапраўднасці не было.

Вядома, нельга адмаўляць пагрозы татарскага нашэсця, якая вісела над беларускімі землямі, бо ўварванні татараў, як мы ўжо бачылі, сапраўды былі. Аднак і

нельга справу паказваць так, нібы толькі Літва магла абараніць Беларусь ад татарскай заваёвы. Яна не магла абараніць і сваёй зямлі ад татараў, як гэта было ў 1258 г. Вось чаму беларускія феадалы не маглі бачыць у асобе літоўскіх князёў сілу, здольную абараніць іх ад татараў. Вось чаму беларускім феадалам не было патрэбы дзяліцца з літоўскімі феадаламі сваёй «рэнтай».

Тое, што Беларусь не ведала мангола-татарскага пагрому і панавання, мела для яе важнае значэнне, якое пакуль што яшчэ не ацэнена ў гістарычнай навуцы. Як вядома, мангола-татарскае панаванне перапыніла і замарудзіла працэс палітычнага аб'яднання рускіх і ўкраінскіх земляў, падарвала іх прадукцыйныя сілы. Усяго гэтага пазбегла Беларусь. Яе аб'яднанне не было спынена, а яе прадукцыйныя сілы ў выніку прытоку новага насельніцтва яшчэ больш узраслі. Усё гэта і было прычынай таго, што фарміраванне тэрыторыі Беларусі і ўтварэнне беларускай народнасці пайшлі хутчэй, чым аналагічныя працэсы ў іншых усходнеславянскіх землях.

## Крыніцы і літаратура

222 История БССР. Т.I. С. 66.
223 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М. 1959. С.6.
224 ПСРЛ. Т.32. С.132.
225 Живописная Россия. Т.3. С.372.
226 ПСРЛ. Т.2. Стб. С. 871 -- 872.
227 Там же. Стб. С.872.
228 ПСРЛ. Т.32. С.25.
229 Там же. С.131.
230 Живописная Россия. Т.3. С.362.
231 Гісторыя Беларускай ССР. Т.I. С.121.
232 Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М. 1959. С. 375, 381.
233 Новгородская I летопись. С.82.
234 Греков Б., Якубовский А. Золотая Орда и её падение. М.; Л., 1950. С.83, 86.
235 ПСРЛ. Т.2. Стб. 872.
236 ПСРЛ. Т.2. Стб. 876.
237 ПСРЛ. Т.2. Стб. 876.
238 Гошкевич И.И. Виленская губерния. С.114.

## ІМЕНЫ І ПРОЗВІШЧЫ

Большасць беларускіх татарау цяпер маюць прозвішчы "польска-беларускага тыпу". Часта яны утвораны з імёнау бацькі, гэта значыць патронімау. У іх аснове -- імя продка, родапачынальніка. Продка Асановічау звалі Асан / Хасан /, Чымбаевічау -- Чымбай, Аліевічау -- Алі, Курмановічау -- Курман, Шабановічау -- Шабан і г.д. Часам патронім утвораны не ад імя, а ад мянушкі продка / напрыклад, у Варановічау /. Часам сама мянушка стала прозвішчам, што замацавалася у дзяцей і унукау / напрыклад, у Лебедзяу /. Адбываліся даволі складаныяператварэнні. Напрыклад, продка Бараноускіх звалі Байрам-Ходжа, яго нашчадкі сталі Байрамгадзевічы, а пасля гэтага прозвішча перадавалася на польска-беларускі лад і стала Бараноускім. Часта прозвішча на -скі утваралася ад назвы зямельных уладанняу. Напрыклад, прозвішча Крыніцкіх -- ад маёнтка Крыніцы Вявюрскай у Мінскім ваяводстве і г.д. Але прозвішчы на такі узор часам ствараліся і ад родавых імёнау нашчадкау улусных князёу. Напрыклад, князі Юшынскія узялі прозвішча ад родавага імя сваіх продкау у Ардзе. Прозвішча князёу Уланау узнікла з тытула малодшых нашчадкау Чынгіс-хана. Зрэшты, татары па уласнай ініцыятыве, можа быць -- ад мянушак бралі прозвішчы мясцовай шляхты. Адсюль у татарау прозвішчы Даугяла, Скірмант, Бутлер. Цікавую групу складаюць татарскія прозвішчы, утвораныя ад імён-мянушак -- Ясінскі, Смольскі. У ХУП ст. імя Смоля было размоунай формай імя Смаіл / Ісмаіл /, Ясінскім маглі называць у прастамоуі чалавека, якога звалі Хасень. Адсюль у дакументах ХУП ст. такія дзіўнаватыя спалучэнні, як Смольскі Селімбековіч, Ясінскі Кульзімановіч і г.д. Здаралася, што да прозвішчау далучалі родавыя назвы, якія уваходзілі да рэальнага / а часам прыдуманага / родавага імя продка. Гэта у татарскім шляхецтве Туган-Мірза-Бараноускія, Найман-Мірза-Крычынскія і г.д.

Трапляюцца і прозвішчы, утвораныя ад хрысціянскіх, славянскіх іменау: Александровіч, Багдановіч, Багушэвіч, і г.д. З"явіліся яны таму, што беларускія татары здауна, -- зрэдку ужо з ХУ ст., -- ужывалі гэтыя імёны / часам -- узамен сугучных ім татарскіх ці проста мусульманскіх /. Нашчадкі ардынскіх князёу Найманау, якія узначальвалі адно з татарскіх харунжауствау у Вялікім княстве Літоускім, у пачатку ХУІ ст. называліся Пятровічамі / ад імя свайго продка, атрыманага, верагодна, ужо у Літве /; у той жа сям"і шырока ужываліся і іншыя хрысціянскія імёны: Іван, Дзімітры / Дзмітры Пятровіч упамянуты нават у канцы ХУ ст. /, хоць яны і захоувалі мусульманскую веру. Трапляюцца таксама імёны Івашка, Сянько і у іншых татарау. Верагодна, што пашырэнне такіх іменау тлумачыцца звычаем ужываць падобную да татарскай форму хрысціянскіх іменау. "Сянько" у татарау гэта звычайна скарочаная форма ад імя Сяньчук, Януш -- Яным і г.д. Акрамя таго у імёнах, мусульманскіх і хрысціянскіх, якія узыходзяць да біблейскіх часоу, ужываецца часцей мясцовая форма: замест Ісмаіл ці Смаіл -- Самуэль / альбо, як мы ужо казалі, -- Смольскі /, замест Ібрагім, Абрагам -- Абрам, замест Захарыят -- Зекерыя і г.д. Доугі час, яшчэ у ХУП ст., даволі пашыранымі былі старыя цюркскія імёны: Тахтамыш / імя вельмі пашыранае /, Янбек / г.зн. Джанібек /, Шахманцар, Дзянахмет, Чымбай. Але усё большае пашырэнне набываюць "кніжныя", г.зн. традыцыйныя мусульманскія імёны, некаторыя -- ад назвау месяцау мусульманскага календара / Мухарэм, Шабан /. Але можна адзначыць і уплыу моды. Напрыклад, у ХУШ ст. пад уплывам кантактау з мусульманскімі краінамі з"явілася імя Шагін-Гірэй, у канцы XIX ст. -- Абдул-Гамід / у гонар турэцкага султана /. У ХУШ-XIX ст. і пазней усё больш пашыралася практыка скарыстання "парных" нават не адназначных, але блізкіх па гучанню імён: Ібрагім--Браніслау, Мустафа -- Стэфан, Алі -- Аляксандр, Хасень -- Канстанцін і г.д. Такая ж практыка замацавалася і для жаночых іменау: імя Айша

часта перадавалася як Ганна, Фуша — Уршуля, Фаціма — Фелiцыя i да т.п. Такая "еўрапеізацыя" імёнаў / яна, дарэчы, так і не стала усеагульнай / звязана з інтэграцыяй татараў у мясцовае грамадства, працягам культурнай асіміляцыі. З другога боку, кантакты з усходам, з іншымі групамі татараў у нашы дні прыводзяць да адраджэння мусульманскіх імёнаў. Трывожыць, аднак, скажэнне прозвішчаў пры іх транскрыпцыі у беларускім ці літоўскім варыянце / з"яўленне спецыфічна літоўскіх канчаткаў, замена літары "О" на "а", якія парушаюць традыцыйнае польскае і рускае напісанне, зафіксаванае у гістарычных крыніцах ХУП — XX ст. /. Колькасць прозвішчаў беларускіх татараў параўнальна невялікая. У XIX — пачатку XX ст. дакументальна адзначана 200 родаў / у тым ліку татарскіх сем"яў на Валыні /. Ёсць сем"і-аднафамільцы / напрыклад, некалькі родаў Еўляшэвічаў, Смольскіх, Александровічаў, Ясінскіх, Багдановічаў /, але у большасці выпадкаў, нягледзячы на значную колькасць носьбітаў таго ці іншага прозвішча, яны узыходзяць да агульнага родапачынальніка, які жыў у ХУП — ХУШ ст. ды і пазней, прымалі хрысціянскую веру, г.зн. існуюць галіны татарскіх родаў, якія амаль ці зусім забыліся пра сваё паходжанне / некаторыя Базарэўскія, Карыцкія, Ахматовічы і інш. /. З каталіцкай галіны Крычынскіх паходзіў, дарэчы, вядомы гісторык беларускіх татараў Станіслаў Крычынскі. Гэтыя нашчадкі татарскіх родаў, якія па крыві пераважна не татары, нярэдка захоўваюць родавыя традыцыі, удзельнічаюць у справах татарскіх таварыстваў, цікавяцца іх справамі. Прыкладам можа служыць хоць бы памерлы пісьменнік Міхаіл Міхайлавіч Туган-Бараноўскі / сын вядомага прафесара, легальнага марксіста М.І.Туган-Бараноўскага / і яго сын Дж.чы-Міхайлавіч, доктар гістарычных навук. Імёны ардынскіх татараў, якія зберагліся да сённяшняга дня на Беларусі, нагадваюць нам першыя падзеі іхняй гісторыі у Вялікім княстве Літоўскім.

# ГЕНЕАЛОГІЯ РОДУ ЦАРЭВІЧАЎ АСТРЫНСКІХ

У ХУІ ст. у Вялікім княстве Літоускім, Рускім і Жамойцкім адным з самых магутных і знатных родаў лічыўся род татарскіх царэвічаў Астрынскіх. Гэтую назву яны атрымалі ад назвы населенага пункту Астрына / Гродзенская вобл., Шчучынскі р-н /, дзе у пачатку ХУІ ст. царэвічы мелі службы. У гэтым артыкуле робіцца спроба прасачыць генеалогію роду царэвічаў Астрынскіх, якія у старшынстве татарскіх родаў Вялікага княства Літоускага стаялі на першым месцы.

Свае карані гэты род бярэ ад знакамітага Цімура / Тамерлана, Цімур-Ленга, царавау у 1370 — 1405 гадах /. Цімур не прыняў тытул хана і называу сябе эмірам. Ён ганарыўся тым, што можа называць сябе "гурганам" і быць у сваяцкіх адносінах з Чынгісідамі. Гурган — значыць "зяць". Цімур ажаніўся з удавой эміра Хусейна, дачкой забітага хана Казана, а апошні быў з роду Чынгіз-хана.

Наступным звяном у гэтым генеалагічным ланцугу быў Цімур-Кутлуг. Цяпер цяжка удакладніць, калі Цімур-Кутлуг упершыню з"явіўся пры двары Цімура у якасці царэвіча / аглана /. Ён пачынае актыўна дзейнічаць у свіце Цімура падчас ваенных дзеянняу супраць Тахтамыша. Упершыню імя Цімура-Кутлуга упамінаецца пад 1390 г. У гэты год, перайшоўшы Сырдар"ю, Цімур у якасці авангарда накіраваў вялікі атрад пад начальствам Цімур-Кутлуг-аглана і шэйха Алі Бахадура. Далей мы бачым Цімур-Кутлуг-аглана разам з белаардынскім эмірам Эдзіке / Эдзігей / з племені мангыт. Лёс іх звязаў надоўга. Па свайму саслоўнаму становішчу Эдзігей знаходзіўся значна ніжэй Цімур-Кутлуга. Больш моцная і уладарная натура Эдзігея падпарадкавала сабе Цімур-Кутлуга. У 1397 г., калі да улады прыйшоў Цімур-Кутлуг / фактычна Эдзігей /, Залатая Арда на кароткі час узмацнілася. Але гэта быў апошні пробліск дагараючага кастра. Сабраўшы вялікае і моцнае войска, у 1399 г. Вітаут — вялікі князь

Вялікага княства Літоускага, рушыу на татарау і разграміу іх лагер на р. Ворксле. Летапісец паведамляе, што Цімур-Кутлуг, убачыушы такую моц, спалохауся і вырашыу заключыць мір. У гэты час да Цімур-Кутлуга падаспеу ардынскі князь Эдзігей. Яму удалося угаварыць Цімур-Кутлуга адмяніць пагадненне і прыняць бой. Войска Вітаута было разгромлена. Дадзеныя нумізматыкі пацвярджаюць звесткі пісьмовых крыніц аб гадах царавання Цімур-Кутлуга / 1397 па 1400 г. /. У 1400 г. па словах летапісца "умре во Орде царь Темирь Куклуй и по нем сяде Шадибек на царствии Большиа Орды Волжскиа". Ёсць таксама і іншыя звесткі аб яго смерці: "Тимур-Кутлуг так много пил, что однажды он заснул после длительного пьянства".

У 1410 г. прастол заняу Цімур-хан, сын Цімур-Кутлуга. Цімур-хан царавау толькі два гады. У 1412 г. ён быу па-здрадніцку забіты адным са сваіх ваеначальнікау.

У 1465 г. на гістарычную сцэну выходзіць новы прэтэндэнт на ханскі прастол у Вялікай Ардзе — Ахмат-хан, унук Цімур-хана. Якім бы ні быу энергічным Ахмат-хан, палітыка яго не мела будучыні. Менавіта з гэтым імем звязаны канец татарскага іга і запусценне Залатой Арды. У пачатку кастрычніка 1480 г. вершнікі Ахмат-хана з"явіліся на беразе р.Угры. Ваенныя падзеі, якія адбываліся на р. Угры, можна назваць супроцьстаяннем дзвух вялікіх рацей — рускай і ардынскай. Працiунікі зышліся твар у твар. На левым беразе ракі выстраіліся рускія лучнікі, былі расстаулены цяжкія пішчалі і пюфякі, пртаіліся з лёгкімі "ручніцамі" атрады "огненных стрельцов". Рускія ваяводы пастараліся максімальна выкарыстаць перавагу свайго войска у вогнястрэльнай зброі і не дапусціць пераправы ардынцау на левы бераг Угры. Бітва пачалася 8 кастрычніка і працягвалася 4 дні Зыходзячы з летапісных звестак, ардынцам так і не удалося пераадолець водную перашкоду і завязаць бой на левым беразе. Панёсшы сур"ёзныя страты, Ахмет-хан быу вымушаны адступіць. Ахмат збірауся пачаць наступленне, калі лёд скуе раку. 26 кастрычніка Угра пакры-

пася лёдам, аднак Ахмат не спяшау пераходзіць раку. У лістападзе Ахмат павярнуу назад і кінууся уцякаць праз літоускія уладанні. На зімоуцы каля вусця Северскага Данца хан Шыбанскай / Цюменскай / Арды Айбек з нагаямі сустрэу Ахмата і 6 студзеня забіу яго.

Пасля смерці Ахмата Залатая Арда некаторы час заставалася параунальна вялікай дзяржавай, дакладней, яна займала значную тэрыторыю. Адваяваць яе у "Ахматавых дзяцей" было не так лёгка, аднак у іх не было сілы уздзейнічаць на усходнеурапейскую палітыку, хоць такія спробы пастаянна вяліся на працягу 26 гадоу пасля смерці Ахмата. Толькі у маі 1502 г., калі крымскае войска на чале з крыскім ханам Менглі-Гірэем выступіла за Перакоп, "в поле" пачауся апошні паход супраць Вялікай Арды. Ханам Вялікай Арды у той час быу сын Ахмата -- Шых-Ахмат. У пачатку чэрвеня пасол Аляксей Забалоцкі паведамляу з Крыма у Маскву: "Орду, государь, кажуть на усть реки Сулы" і "царь Менгли Гиреи на Орду идет спешно, и пушки, государь, и пищали с ним идут же". Дзесці каля вусця р.Сулы і адбыліся рашучыя баі. Падрабязнасці нам невядомы. У паведамленні рускага пасла з Крыма ад 28 мая 1502 г. толькі гаварылася, што "царь Менглі-Гирей Шиг-Ахмета царя прогнал и Орду его и улусы взял".

Пасля паражэння Шых-Ахмет схавауся на Літве, дзе ён знаходзіуся каля 20 гадоу, а затым разам з сынам Шых-Манцэрам вяртаецца у Заволжскае царства. Другі сын хана -- Ажубек-Солтан ужо у 1514 г. атрымау у якасці падарунка ад караля Жыгімонта I 70 службау пад Астрынай, застауся у Вялікім княстве Літоускім, дзе у старшынстве татарскіх родау займау першае месца і быу выказнікам інтарэсау татарскай шляхты. К 1531 г., пасля смерці Федка Святошы, ён атрымлівае маёнтак Палозіна, а таксама тэрыторыю Рыны пад Астрынай. У 1536 г. Ажубек-Солтан атрымау прывілей на зямлю Сцяпанаушчыны у Трокскім павеце. Акрамя гэтага, як сведчаць дакументы, ён меу частку Калдычава і Бераставіцу у Ваукавыскім павеце. Ад жонкі

Зані Малікбашыцаўны Шырынскай у яго засталіся два сыны -- Батыр Солтан і Чынгіз Ажубек Солтан. У 1548 г. браты-царэвічы Астрынскія прадаюць Палозіна Мікалаю Нарушэвічу, падскарбію земскаму. Ад Батыра Солтана нашчадкаў не засталося. Што датычыць Чынгіза Ажубека Солтана, то ён у 1555 г. атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста пацвярджэнне на валоданне ваколіцамі Рычы. Памёр Чынгіз Ажубек Солтан у 1585 г., пакінуўшы удаву Умну Агішэвічаўну Шырынскую і дзяцей, апекуном якіх стаў брат Умны Ян Агішэвіч. Удава Чынгіза, царэвіча Астрынскага, затым выходзіць замуж за Фурса Улана Ацанрыковіча і у 1598 г. яны прадаюць Рыч земскаму падскарбію Дзмітрыю Халецкаму. Аб далейшым лёсе дзяцей Чынгіза Ажубека Солтана невядома. Ёсць толькі звесткі, што у 1632 г. маршалак лідскі Аляксандр Халецкі, сын падскарбія Дзмітрыя дабіўся каралеўскага прывілея на прысуд Рычы. Барацьба з уплывовымі Халецкімі была не пад сілу нашчадкам Ажубека Астрынскага. Ажубекавічы сталі перад выбарам -- або здрада веры бацькоў, або эміграцыя, або галеча, як вынік знікнення са сцэны жыцця. Здаецца, што ім выпала апошняе, хоць магчыма, што яны паклалі пачатак роду Аджубекавічаў, які быў вядомы у Беларусі і на Літве у ХУШ -- пачатку XIX ст.

Цікава, што апошні хан Залатой Арды Шых-Ахмет знаходзіўся на Літве у якасці эмігранта і палітычнага вязня. Спачатку хан жыў у Кіеве. Але хутка ён з атрадам у 300 вершнікаў выкарыстаў патаемны праход і уцёк у Аккерман / Белгарад /. Тут ён папрасіў дапамогі у турэцкага султана, але той адмовіў яму. Шых-Ахмету нічога не заставалася, як вярнуцца у Кіеў. У Кіеве за уцёк ён быў арыштаваны і спачатку яго трымалі тут, потым у Вільні, Троках і Коўне. І толькі праз 20 гадоў, у 1523 г. ён атрымаў волю.

## ЦЮРКІЗМЫ У АНГЛІЙСКАЙ МОВЕ

Кантакты народау заусёды ствараюць спрыяльную глебу для узаемапранікнення моу. А што ужо казаць пра такія актыуныя народы, як цюркскія, што пакінулі значны след у самых розных мовах. Нямала цюркізмау у такой пашыранай мове як англійская. Рэальна у англійскай мове існуе каля 400 цюркізмау, 55 з іх складаюць этнаграфічныя, 26 — грамадска-палітычныя, а 19 — прыродныя рэаліі. Прычым апошнія уваходзяць у тэрміналогію адпаведных навук і таму з"яуляюцца неад"емнай часткай англійскай лексікі / хаця большасць гэтых слоу вядома толькі спецыялістам /. Сярод найбольш вядомых слоу з гэтай групы badian, beech, bergamot, irbis, jougara, mammoth, sable, taiga. Цюркізмы з грамадска-палітычнай лексікі выкарыстоуваюцца звычайна у спецыяльнай літаратуры, у творах гістарычнай і этнаграфічнай тэматыкі пра жыццё цюркскіх і мусульманскіх народау. Найбольш асвоеныя цюркізмы гэтай групы bashi-bazouk, effendi, chiaus, cossack, ganch, horde, khan, mameluke, pasha, uhlan. Этнаграфічнымі рэаліямі звычайна карыстаюцца у навуковай літаратуры / у творах пераважна гістарычнага характару /. Сярод гэтых слоу таксама ёсць словы, якія сталі неад"емнай часткай англійскай лексікі: caviar, coffee, coach, kiosk, kumiss, macrame, shabrack, shagreen, vampire.

Словы цюркскага паходжання пачалі пранікаць у англійскую мову пачынаючы, відаць, з канца 4 ст., калі гуны-цюркі пакарылі продкау ангічан — англау і саксау. У пошуках выратавання і лепшага жыцця англы, саксы і юты у 449 г. пачалі перасяляцца на Брытанскія астравы. Калі улічыць несумненную перавагу цюркау таго часу над германскімі плямёнамі як у культурных адносінах, так і у ваеннай справе, то у старажытнаанглійскую мову павінна было увайсці шмат цюркізмау, асабліва з ваеннай тэрміналогіі. У сучаснай

англійскай мове захаваліся такія цюркізмы гуна-старажытнаанглійскага перыяда, як beech, body, beer, book і дзеяслоў to bore -- "свідраваць". У працэсе развіцця англійскай мовы большасць старажытнаанглійскіх слоў, у т.л. цюркскага паходжання былі выцеснены словамі іншага паходжання. Так, напрыклад, старажытнаанглійскае слова цюркскага паходжання tapor было выцеснена агульнагерманскім axe. Цікава, што гэтае слова было таксама запазычана арабскай, персідскай і рускай мовамі і захавалася да гэтых часоў.

Адным са шляхоў пранікнення цюркізмаў у англійскую мову стала запазычанне англійскай мовай індыйскіх слоў, сярод якіх былі і словы цюркскага паходжання. Прамое запазычанне пачалося ў XVI ст., калі былі заснаваны першыя англійскія факторыі ў Індыі. Асноўная частка такіх слоў прыходзіцца на XIX ст., калі Індыя стала каланіяй Брытанскай імперыі. Такім чынам з індыйскіх моў у англійскую трапіла каля 900 слоў, 40 з якіх цюркскага паходжання: begum, burka, cotwal, kajawah, khanum, soorme, topchee, urdu.

Звыш 60 слоў цюркскага паходжання пранікла ў англійскую мову пры пасрэдніцтве рускай мовы. Сярод іх: ataman, hurrah, kefir, king, koumiss, irbis, shashlik.

Такія цюркізмы, як hetman, horde, uhlan трапілі ў англійскую мову праз польскую. Этымалагічныя слоўнікі англійскай мовы памылкова ўзводзяць слова uhlan да турэцкага oglan "юнак". Аднак у татарскай мове эпохі Залатой Арды углан азначала не толькі "юнак, дзіця", але і "баец, воін". Таму такую назву насілі гвардзейцы ханаў. У 1313 годзе татары дапамаглі вялікаму князю літоўскаму Гедымінасу адбіць націск нямецкіх крыжакоў. А ў 1397 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўтас запрасіў татар на службу і пастаяннае жыхарства. Гэтыя татары адыгралі значную ролю ў разгроме нямецкіх рыцараў у Грунвальдскай бітве. Улічваючы тое, што ў Польшчы, на Беларусі і Літве татары жывуць каля 600 гадоў, няма неабходнасці тлумачыць цюркскія запазычанні ў гэтых мовах уплывам толькі турэц-

кай мовы.

З венгерскай пры пасрэдніцтве нямецкай і французскай моў у англійскую перайшлі такія цюркізмы, як coach, haiduk, kivasz, vampire. Непасрэдна з нямецкай мовы перайшлі словы shabrack, trabant; з іспанскай -- bocasin, lackey; з лацінскай janissary, sable; з італьянскай bergamot, kiosk. Найбольшая колькасць цюркізмаў перайшла з французскай мовы: badian, caviar, odalisque, sabot turkuoise.

Прамыя кантакты носьбітаў французскай мовы з туркамі пачаліся яшчэ ў эпоху крыжовых паходаў. Шмат французаў, іспанцаў, італьянцаў знаходзілася на службе ў туркаў у перыяд экспансіі Асманскай імперыі / XIУ -- ХУI ст. /. У 1536 г. Францыя і Турцыя падпісалі саюзны дагавор, пасля чаго французскім падданым былі прадастаўлены гандлёвыя, консульскія і інш. прывілеі. Для еўрапейцаў таго часу, якія зведалі рэлігійны і сацыяльны ўціск феадалаў, Турцыя была дзяржавай верацярпімасці і адноснага дабрабыту народу. Пасля дагавору 1579 г. паміж Англіяй і Турцыяй у апошняй таксама былі створаны гандлёвы калоніі. Англійскія пісьменнікі пачалі актыўна ўжываць у сваіх творах на ўсходнюю тэматыку цюркскія словы / асабліва многа такіх слоў увялі Крыстофер Марло, Шэкспір, Байран, Скот /. Такім чынам, запазычанні з турэцкай мовы складаюць большую частку цюркізмаў, якія трапілі ў англійскую мову шляхам прамога запазычання.

Разам з тым, трэба адзначыць, што большасць цюркізмаў, якія увайшлі ў англійскую мову да XIX ст., ужо выйшлі з актыўнага ужывання. Асноўную ж масу цюркізмаў, якія засталіся ў англійскай мове, складаюць пераважна экзатызмы і этнаграфізмы. Яны не маюць эквівалентаў у англійскай мове і не уступаюць у сінанімічныя адносіны з карэннымі словамі; выкарыстоўваюцца звычайна для апісання флоры, фауны, побыту, звычаяў, грамадска-палітычнага жыцця

цюркскага рэгіёна. Аднак ёсць нямала цюркскіх запазычанняў, якія датычацца агульнаўжывальнай частотнай лексікі. Некаторыя цюркізмы, напрыклад, bosh, caviare, coach, horde, jackal, kiosk і некаторыя іншыя, раз.іваюць новыя значэнні, не ўласцівыя іх эцімонам.

Слова bosh пранікла ў англійскую мову са значэннем "глупства, пустая балбатня", а пазней стала ўжывацца ў функцыі дзеяслова са значэннем " дражніць, дурачыць, не прыносіць ніякай карысці". Слова caviare першапачаткова абазначала толькі "ікра", а у канцы XIX ст. стала ўжывацца ў значэнні " абзац ", або "радкі, выкрасленыя цэнзурай". Пазней шляхам канверсіі гэта слова пачало ўжывацца ў якасці дзеяслова са значэннем "закрэсліць". Слова coach запазычанае ў значэнні "вялікі крыты воз", з часам набыло шмат іншых значэнняў: карэта, экіпаж, пасажырскі вагон, турысцкі аўтобус; рэпетітар; інструктар, трэнер і інш. Слова horde увайшло ў англійскую мову ў значэнні "група цюркаў-качэўнікаў", аднак паступова набыло новае значэнне / пераноснае / — "група грубіянаў". Слова jackal апрача свайго асноўнага значэння "шакал", набыло новае значэнне — "чалавек, які робіць за іншага чарнавую падрыхтоўчую работу" / адсюль і дзеяслоў to jackal "выконваць падрыхтоўчую работу" /. Слова kiosk у турэцкай мове мае значэнне "вежа, каюта, віла, летні палац", у англійскай мове яно набыло неўласцівыя эцімону значэнні — "газетны кіёск, тэлефонная будка, будка пры ўваходзе ў метро" і інш.

## З КНІГІ ДОКТАРА ЯНА СТАНКЕВІЧА

У канцы 1991 года Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства "Адраджэнне" у Менску выпусціла у свет кнігу доктара Яна Станкевіча "Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом", упершыню надрукаваную у 1933 годзе у Вільні.

"Байрам" друкуе урывак пра Мірадж з гэтай вельмі цікавай кнігі / старонкі 18 -- 29 /. У 1992 годзе мусульмане адзначаюць вечар і дзень узнясення прарока Мухамеда на сёмае неба 26 і 27 раджаба -- 31 студзеня -- 1 лютага.

Магчыма, што некаторым чытачам мова доктара Яна Станкевіча будзе не найлягчэйшая да зразумення, але вам будзе усё ж лягчэй, чым прыйшлося вучонаму, калі ён чытау "Аль-Кітаб". Няхай будзе рай светлы гэтаму добраму чалавеку.

### Мэрадж [1].

Bismi 'llahi 'rrachmani 'rrachimi [2].

Наўперад 1) Божа імя ўспамінайма, міласьць у нутрах сваіх уфундуем; першы і астатні Он ест вякуісты, да кажнай рэчы моцны, ніхто Яму непадобны, адзіны 2) ест. Яшчэ нічога ня было, стварыў сьветы, людзі, яшчэ да людзей падобна фэрый і дзівы; стварыў зямлю і неба, людзей і ангелы, месяц і слонца і зьвезды, семкрот нябёс. За расказаньнем месяц і слонца узыйдзе і зайдзе, рассудку яго кажны трымае. Потым месяц і слонца зьвяжа парсуну, дасьць яму розум і міласьць і вядомасьць. Навука ест также і твая: пей салават [3]) прароку, гэй браце, прароцкаму мэраджу [4]) трымай вуха.

Успомнем мэрадж прароцкі. Калі ўчуеш, рада будзе ўся душа. Мовіў Аббасаў сын тое слова, ведамасьць дае прарок яму сам. Прарок мовіў: „Скажу, што ся дзеяла; сын Аббасаў, выслухай мяне.

Адкланяўся ўночы етцы намаз [5]), вышаў з дому, хадзіў памалу.

---

[1]) Гэтую лягенду друкуем дзеля цікаўнага зьместу ейнага. Дык, маючы наўвеце шырокае грамадзянства, дзеля лягчэйшага чытаньня, тутака яна друкуецца паводле сучаснага правапісу. Мову, як фонэтыку, так і формы словаў, пакідаем бяз зьмены. Слоўнік таксама не мяняем, але палёнізмы замянілі словамі беларускімі, паказаўшы ў канцы, як было ў арыгінале. Гэта таксама прычыніцца дзеля лягчэйшага чытаньня й разуменьня. Арабізмы пакідаем, бо яны згаджаюцца з мусульманскім характарам лягенды. Затое ў вынесках даем пераклад арабізмаў.

[2]) выражэньне арабскае, пераклад: У імя Бога міласэрнага, міласьцівага.

[3]) араб.; кароткая малітва на хвалу прарока.

[4]) узьнясеньне, араб.

[5]) вячэрная малітва.

Цемна было, вочы сьветласьці ня відзелі, куры ня пелі, сабакі не брахалі. Дождж ішоў, цемна было, вецер веяў. Разумеў, што судны дзень настаў. Межы Сафа і Мэрва[1]) хадзіў, мысьлячы межы іх стаяў. А зямлі, а нябёсах мысьліў, моцы Божай дзіваваўся, казаў: „І што ест моцны, праўдзівы Пан, як стварыў зямлю і нябёса на паветру!

У том умысьле спаць мне захацела (сын Аббасаў, выслухай гэта слова!) Потым ачнуўся. Скора глянуў на чатыры стараны, чатыры ангелы ўвідзеў: кожны ў руках па харугве 3) дзяржаць. Гэты ўвесь сьвет у сьветласьці стаў, гэты сьвет напоўніўся сьветласьці з канца ў канец, блеск 4) паў на гару, на каменьне. З небам была роўна кажная харугаў. Уперад прышоў Джабраіл [2]) даў селям [3]). Глянуў Джабраілу у твар, месяц, слонца зацьмела; месяц і слонца зьмянілі парсуну сваю. Ад зямлі да неба аперлася велічыня яго. Напісана ест перад ім два сатыры: [4]) „Нямаш іншага Бога, толькі 5) Аллаг імя яго моцнага!" Блеск 6) б'ець другога сатыра. „Яўно, што 7) Мухамэд пасол Божы, Мухамэд прарок імя".

Шэсьцьсот крыльля, семдзесятсот 8) год кажнае крыло, семсот полкаў яго было валасоў, пэрла, дарагія каменьне на кажнам канцу з твары 9) харошай і голасу; з чырвонага акіку [5]) было на ём адзеньне.

Пытаў я на потым: „І браце Джабраілу, чы ўжо трубіў у трубу Ісрафіл, чы прыказаньне Божае нам аднавілася? А ўсём мне дай знаці і ведаці; гэта ноч, што за ноч, скажы мне?" Джабраіл мовіў:

*Адрывак лягенды «Мэвадж» з «Аль-Кітабу».*

---

[1]) горы ў Арабіі ля Мэккі.

[2]) ангел Гаўрыіл.

[3]) даць селям—прывітаць, сказаць „Salamun alaikum"—супакой табе!

[4]) радкі.

[5]) араб. акік—камень.

„Семенчуй [1]) табе, прароча, Мэрадж ноч ест; прароча, не фрасуйся, нутр трымай вясёлы 10). Тая абятніца, што абяцаў Праўдзівы табе, дойдзеш гэтай ночы да тае абятніцы. Што табе даў, нікому таго ня даў: аўлія [2]), пракокі ня ведалі, а стварэньне цябе павялічыў, ад усіх цябе пажадаў. Ест ты Божы міласьнік, і Мухамэду, ад цябе нам усім прычына мае быць. Устань, прароча, апашыся, блізка мейсца маеш мець ку Пану Богу, абачыш Пана Бога аблічнасьці, што захочаш, усё абачыш. Прыбярэ 11) для цябе нябёса, радуецца, што ўвідзеў прарока. На сямі нябёс што ест ангелей харошай твары, хочуць відзець, жадаюць, просяць Пана Бога за цябе, дуаі [3]) пяюць усе за душу тваю".

Скора ўчуў ад Джабраіла тыя слава, зарадаваўся, твар на зямлю палажыў. Пацягнуў адзеньне, штоб надзеў. Джабраіл мовіў: „Што чыніш, і душа прароча? Сегасьветнага адзеньня з табой ня трэба ест. Расказаньне Божае мне: „Вось 12) прыслаў табе іншае адзеньне, нічога ест праціў гэтага атлас". Двое адзеньне ўзлажыў на мяне зялёнае, з моцы сваей стварыў тое Пан Бог, із сьветласьці тыя абое ствароны, блескам 13) напоўніўся ўвесь сьвет. Скора надзеў на сябе тое адзеньне, за уммет [4]) свой вельмі клапаціўся 14). Я мовіў 15): „Іж то ест стварыцель Пан Бог, чы будуць насіць умметы такое адзеньне?" Голас прышоў да вуш тае-ж гадзіны: „Просьба прынята твая, прароча".

Потым да вады прышоў земзем [5]). Два ангелы ўказаліся прад вочы, кожны ў руцэ кубак 16) дзяржыць, у вадном земзем вада, а ў другом кеўсер [6]). Абдас [7]) узяў, разьліваючы тую ваду. Хто умметам маім, абдас узяўшы, ляж спаць рукі зладжыўшы.

Стаяў Джабраіл, прышоў у том часе Мікаіл [8]); дзяржыць у правай руццэ аднаго каня — брух жоўты, шыя зялёная, персьці белыя, плечы з крышталу, капыта за срэбра (той быў усіх коняй панам), зубы мэрджан [9]), язык з імбэру, валасы, вушы із яханту, персьці конськія, твар падобна чалавеку, пэрла або каменьне дарагія абадва воч, хвост паві, як дарагі камень, з абодвых старон белыя скрыла 17) з пэрлаў із дарагога каменьня, так з пэрла каштоўнага вуздэчка, із сьветласьці. Хто салават [10]) пяець, на судны дзень усьсядзе.

Рукамі дакрануўся да карку ўсьсесьць; адным разам скочыў ад мяне; як скача рыба ў сеці, так выскачыў з рук маіх. Джабраіл мовіў: „Што чыніш, гэй коню, устыдайся, прарок стаіць наш, дайся дасесьць прароку, уцішся, слухай маго слова: за 18) яго лепшы на цябе ня будзе ўсьсядаць; калі ён на цябе ўсьсядзе, цела у пекле ня будзе гарэць, харамам [11]) будзе табе пякельная мука, дайся дасесьць

---

[1]) слова незразумелае; паводле паралельнага татарскага тэксту, значыць „прыемная неспадзеўка".

[2]) сьвятыя.

[3]) араб. дуа—прашэльная малітва.

[4]) араб. уммет абазначае царкву й вернікаў.

[5]) назоў аднае сьвятое вады.

[6]) напітак.

[7]) араб. абдаст—умыванньне.

[8]) ангел Міхаіл.

[9]) белы дарагі камень.

[10]) род малітвы, гл. бал. 18.

[11]) творны адз. ад араб. харам—тое, што забаронена.

прароку!" У том часе той конь пачаў мовіць, за воляй Божай мовіў да Джабраіла, мовіў: „Слова майго слухай, і Джабраілу, не ўсьсядаў на мяне Ібрагім[1]), прыяцель Божы, і твой Ісмаіл неўсьсядаў, ты ведаеш астатнюю ведамасьць, як мае быць". Джабраіл мовіў: „І коню, розум твой гдзе, то прарок, двох сьветоў. Пан для яго стварыў сьвет; што кольвек ест яўнага й тайнага ў Пана Бога, за яго лепшага нямаш, вера яго ест, гаспадара кабайны[2]) то ест. Скора ўчуў тыя слова той конь, заўстыдаўся, аж яму пот пацёк. Мовіў: „Калі ён усьсядзе, тым спосабам на судны дзень мае за мяне прычыняцца і там тож 19) канём я яму буду, на век вякоў канём яму буду, і там тож 19) ён на мне езьдзіць будзе, на век вякоў канём яму буду". Потым уцішыўся, усьсеў я на яго. Пей салават, і табе Пан Бог судзіць пець! Скора усьсеў на яго, распусьціў крыльле. То ахота, то ест мiласьць, то ест годнасьць.

Цяпер чуў азнайменьне як ходзіць: кожны ступень на міль дзевяцьдзесята йдзе. Час па зямлі хадзіў, час па небе ляціць, ні гор, ні каменьня, ні даліны не глядзіць: даліна прыйдзе, дастануць ногі, гара прыйдзе, такжа пастараму; горы, даліны—усё яму роўна было; разумеў, што 7) прад нім роўна было.

Едучы крык зайшоў раз і другі: „І Мухамэд, стань, умметоў[3]) тваіх слухай тых слоў!" Бурак[4]) не затрымаўся на мейсцу. Ядтуль рушыўся, яшчэ крык зайшоў: „І Мухамэд, слухай слоў маіх!" Я мовіў: „І Джабраілу, хто то ест?" Джабраіл мовіў: „Умметам тваім хоча быць: то храсьцянін, а другі жыд прычыны жадаюць тваей і рады; дай пазнаку ім прычыны сваей, калі хочаш, што-б былі тваім умметам".

Паехаў далей, відзеў адну жонку 20) харошую; дзіваваўся гледзячы на яе парсону. На яе парсону гледзячы, у задзівеньню стаў, відзячы твар яе. Джабраіл мовіў: „Не глядзі на яе, прарочa, каб 21) якая труднасьць не дайшла цябе". Я мовіў: „Гэта хто ест, і Джабраілу?" Джабраіл мовіў: „Сёй сьвет то ест праўдзіве: хто у тое верыць, у вагні гарыць, розныя, розныя мукі відзець будзе; хіба прычына знову ад цябе будзе, Пан Бог ім ласку ўчыніць". То вымавіў Джабраіл і борзда 22) пашоў, як вокам мігнуць да Сынай гары прышоў.

Скора прыехаў да Сынай гары, борзда ісьсеў із каня ў том часе на зямлю; два рэкеаты[5]) борзда кланяўся намаз. Раз мовіў тайна просьбу ку Пану Богу: „Хвала Пану Богу, што 7) мяне прынёс да гэтай гары" Патрымаў Джабраіл, борзда усьсеў на каня. Там ляжаў Імранаў сын Муса[6]) Я тож 19) гуляў у Бэйтулмукаддэсу[7]). Там-жа відзеў прароцкія душы, селям мне ўсе далі. Усе прышоўшы селям далі[8]), сафі, сафі[9]) праціў 23) мяне сталі. Джабраіл мовіў:

---

[1]) Абрагам.
[2]) прымета ўтв. ад араб. к а б а, к а б а й—сьвятыня ў Мэкцы.
[3]) вернікаў.
[4]) па татарску b r a k—часіна.
[5]) араб., азначаны час малітвы.
[6]) Майсей.
[7]) сьвятыня ў Ерузаліме.
[8]) прывіталі.
[9]) саф—рад, сьцяг; араб.

„Гэй, прароча, пытай у іх, навуку чы давалі кяфірам [1]), чы навучалі нявернікаў, што 7) мовілі: „Пан Бог убогі, а мы багатыя". Гэй, прароча, яшчэ кяфіра мовілі: „Іса[2]) сын Божы" мовілі. Яны мовілі: „Чысты Пан Бог, прароча, Пан Бог адзіны 2) стварыў яго халопа. Хто у Яго адзінстве сумляваецца 24), то ест кяфірын, кяфірськае яго ест. Ты, калі праўдзівы, пей салават, знайдзеш у Пана Бога ласку. Навуку давалі ім, ня слухалі, у Божае адзінства ня верылі, шайтанськую[3]) навуку дзяржаліся, душы свае да пекла ўкідалі, кожнаму з нас муку чынілі, некаторых за халап'ю прадавалі, некаторым галавамі ў піліну ігралі, у сём нам такую муку чынілі. Кожны з ніх сваю рэч мовіў, жалаваліся, на кяфіраў скаржыліся.

Потым Джабраіл мовіў: „Мне Божае расказаньне ест, скажу табе, тут два рэкеаты намаз трэба ест, прароцкія сьлёзы уцерць трэба". Два рэкеаты намаз там кланяўся, прад сябе глянуў, чатырох ангелаў відзеў. Адзін палумісак у руках дзяржаць, з місы сьветласьць да аршу[4]) блеск 6) ідзець. У той місе былі тры кухлі для мяне засланы ад Пана Бога. У вадном кухлю вада, у другом малако, у трэцем віно. Хто віно п'ець, душу сваю сіляе. Джабраіл мовіў: „Прароча, то табе Пан Бог заслаў, прароча, табе". Пасягнуў—малако з кухлем да рук прышло; піў, адно на сподзе троха застала. Джабраіл мовіў: „Калі-б выпіў усё, уммету [5]) твайму харамам [6]) было пекла". Я мовіў: „Расскажы, няхай прыйдзе, вып'ю, уммету свайму райськія варота адчыню". Джабраіл мовіў: „Так веле часьць тое выпіў, то ўжо стала часьць твая".

Пашоў адтуль, пусьціўся да мэраджу. Паслухай якая ест Божая моц; скажу табе, што ест мэрадж, будзеш знаць Божую моц. Як маю вымавіць, што-б знаць мэрадж? ногі на зямлі былі, а ў небе канец. Адны ўсходы былі так вялікія. Дзьве стараны ангелаў поўна было; ногі іх пэрловыя былі, іншых д'ямэнтовыя, іншых з крышталу, іншых за злота, іншых за срэбра. Я не кажу, прарок яго мілась так кажа. Кажны майстат розны блеск 4) выдае, адзін аднаго сьветласьцяю асьвячае. На правай старане былі ангелы ў лічбе чатыркрот па сто тысячай; у кажнага ў руках па палуміску сьветласьці дзяржаць, хараша салават пяюць, сэджэ [7]) кланяюцца; радуючыся адзін другому семенчуюць: „Вось-жа 25) прышоў той 26) прарок!" Зікір тасьбіх[8]) пяючы, вышаў к небу, адзінага 27) Бога рамясло ўспамінаючы. Пяцьсот год дарогі грубасьці таго неба. Пей салават 28), скажу табе: з дыму створона першае неба, у кітабе [9]) Рафаа[10]) імя. Адны варота відзеў, імя Хафіз [11]), брамы, вежы—усе сьветласьць.

---

[1]) араб. кяфір—нявернік.
[2]) Ісус.
[3]) ад араб. шайтан—чорт.
[4]) арш—пасад.
[5]) царкае.
[6]) забаронена.
[7]) паклон да зямлі
[8]) род малітвы.
[9]) кнізе.
[10]) араб., зн. „вышьня"
[11]) Старожа.

Прышоў Джабраіл, у варота ўдарыў. Із сярэдзіны голас прышоў:
„Хто ест?" Рэк: „Я ест, чы ты ест? Джабраілу варота адчыні, ува-
йду". Ісмаіл рэк: „Водле 29) цябе хто ест, скажы мне?" Джабраіл
мовіў: „Семенча[1]) няхай табе, пры мне прарок, пахвальнасьць сьвета,
той, што імя пішучы, зламалі калям[2])". Адзін ангел прышоў, варота
адчыніў, семдзесят тысячай ангелай з нім высыпаліся; вітаючы ця-
бе 30) крыкнулі. Кожны з ніх па адном палуміску сьветласьці па-
сыпалі.

Скора з варот у сярэдзіну увашоў, розныя, розныя ангелы, гэй
таварышу, там відзеў. Адзін ангел сядзіць, семкрот па сто тысячай
направе стаяць, семкрот па сто тысячай па левай старане стаяць;
чатырыста рознымі імёнамі ўспамінаюць Пана Бога; ласку ўчыні
ўсім, Ты вячысты Божа! Тыя ангелы на зямлю іступяць, у вадам-
ськіх дзяцей грахі бяруць.

Пашоў адтуль, гуляў па вежах, разглядаў усе зьвезды, кажная
так сафамі, сафамі [3]) завешана, кажная за сегасьветную гару боль-
шая. Там-жа відзеў адзін ангел вельмі дзіўны, з моцы сваей ства-
рыў яго Пан Бог: палавіца із сьнегу, палавіца із агню, розныя тась-
біхі [4]) з языкоў ідуць. Сьнег агню помачы не загасіць, ані агонь
сьнега не растопіць, абадва так у стаяньню ест. Віж Божую моц,
што ест. І мові, гэй таварышу: „Учынюшчы сьнег агню, ласку учы-
ні над умметам Мухамэда!" „Пей салават спасеньню прароцкаму!" —
тасьбіх [4]) то ест таго ангела.

Пашоў адтуль на другое неба. Як слова мовіць мне ся здала
так. Із зе[..]еза 31) стварыў неба другое Пан Бог, што ўробіць, бу-
дзе гатова. Наурэ другому небу імя. (Пей салават, прарок так мо-
віў!) „На другом небе ангелаў многа, не магу мовіць, бо лічбы нет.
Калі чалавек курбан[5]) рэжа, тагды яны на коні ўсьсядаюць, кажды
на галаву карону ўзложыць, у руках дзяржаці булавы, а языкамі
лецімуць тасьбіх. Хто-бы мусульманськую веру здаваў, яны пашоўшы
ўсіх у нівэч зьбернуць. Скора абачыў, селям ім даў; яны прыняўшы
твары сваe на зямлю палажылі.

Пашоў адтуль на трэцяе неба. Заставіў каня на воку мгненьню,
прынучы мяне Пан Бог праўдзе. Трэцяе неба Пан Бог стварыў за
срэбра; Заіра імя, а самое за срэбра; у сярэдзіні так поўна ангелаў,
кажны з боскім расказаньнем у вадном дзеле. Такі чалавек, што доб-
рыя ўчынкі чыніць, то яны таго ангелы ест; іншыя, што зекат са-
даку [6]) даюць; іншыя — боскіх прыяцеляў мусульман; іншыя такжа
Божых баязьнікаў; іншыя, што Кадыр ноч [7]) сядзяць. Там-жа я відзеў
Юсуфпрарока [8]), сьветласьць твары яго нябёса асьвяціла; із сьвет-
ласьці адзін пакой стаяў, мовіў, як месяц стаяў. Прышоў да яго, се-
лям яму даў; ён, мяне паткаўшы, павяльбеньне мне чыніў.

---

[1]) прыемная неспадзеўка.
[2]) пяро; ё легенда, што калі ў небе пісалі імя Магамэдава, дык зламалася пяро.
[3]) тв. скл. ад с а ф.—рад.
[4]) тасьбіх—малітва шмат разоў паўтараная, падобная да хрысьціянскага ружанца.
[5]) жертва із жывёлы.
[6]) садака—убожына, зекат садака—убожына із саракавое часьці заробку.
[7]) 27-ая ноч посту Рамазан.
[8]) Язэпа сына Якубовага.

Пашоў на чацьвертае 32) неба з добрым гуляньнем, таварышам быў Джабраіл пры мне. З дыму стварыў Пан Бог чацьвертае 32) неба, Гэты 26) паважны, Гэты 26) міласэрны 33), Гэты 26) моцны. Чацьвертага 34) неба імя Мазіна. (Дзіўныя рэчы скажу, паслухай яшчэ). Тамжа — відзеў — сядзелі два младзенцы (хто яны ест, скажу, толькі 5) слухай) твару харошага 35), бы 36) месяц; адзін Іса [1]), другі Ях'я быў. Казалі: „Шчасьлівы будзь, пане наш! цябе абачылі, рада стала душа наша“. Яшчэ відзеў аднаго ангела страшнага, на крэсьле сядзеў смутны. Пан Бог яго як стварыў, разу яшчэ не сьмяяўся, жаднага дня вясёлым ня быў. Семкрот зямлі й неба ўсе межы двух лядзьвей стаяць у яго, зямля й неба межы двух лядзьвей стаяць; хто-б мне ня верыў, кяфірын ест.

Пашоў адтуль, трапіў да Ісрафіла. Арш [2]) то ест Ісрафілаў мейсца ад сямікрот зямлі ніжэй ногі яго. Такжа й трубу ў руцэ дзяржыць, труба, як семдзесят сьвятоў. Яшчэ ў трубе дзірак так веле, як веле на сём сьвеце стварэньня. Я кажу 37): „Што то за мейсца, Ісрафілу“? Мовіць 38): „То ест арш, прароча, стварыў сьветласьць, стварыў той 26), як у Коране мовіць 38): „Ест то арш вялікі, Пан Бог справіў“. Потым глянуў на адзінага Бога арш — абадвымі ачыма не глядзеў—усё ангелы. Семдзесят тысячай нябёс ест на аршу зялёных, а на сямі нябёсах вісіць адна вялікая лятарня. Паслухай-жа аднае лятарні страху, хто мае знаць, як неба вялікае. Калі-б семкрот зямлі й нябёс забраліся і ў той лятарні іх паставілі, у вадной палавіцы, так веле яе знаці, як на чалавечым твары 39) знакі або бародаўкі. Чы ня чуў, як рэк той 26) моцны Пан; арш спамянуўшы, мовіць 38): арш вялікі. Яшчэ відзеў подле аршу, гэй паша, адзін ангел падобны птаху. Той ангел свае крыла 17) распастрэ, як ночы тры часьці пярэйдзе; адно аб адно крыло ўдарыць і крыкне і Божыя імёна пяе. На тых, каторыя зікір тасьбіх [3]) пяюць, крычыць: „ Чаго ляжыце—мовячы так крычыць — уставайце; Пан Богу 40) хвалу чыніце, адзінага Бога імя ўспамінайце!“ крыло адно аб адно б'ючы, ночных намазкараў [4]) будзіць. Потым яшчэ раз крыло ўдарыць адно аб адно, як веле голасу ест, раз крыкне, сьпячых усіх абудзіць: „Уставайце кланяціся ночны намаз, паклон чыніце Пану Богу статэчне, ночны намаз пейце, адпушчаны грахі будуць, як умраце, у магілах вашых сьвяча будзе!“ Прад сабахам [5]) яшчэ раз крыкне, на семкрот зямлі й нябёс голас зайдзе. Што крыло аб крыло б'ючы кур пяе, то ўсё яго ест прыклад той: „Уставайце, набожныя людзі, адлучайце ад нутроў сваіх сны, абдас [6]) бяручы, Пану Богу сэджэ [7]) чыніце; як то вы ляжыце ў сну, у том ласкі Божай шукайце“. На тых трох рэчах яго Пан Бог старшым 41) учыніў, Гэты адзіны 42). Мовіў, што 7) то аршовы кур—паруску

---

[1]) Хрыстос.

[2]) пасад.

[3]) род малітвы.

[4]) з перскага н а м а з (=малітва) паўстала ў беларускіх мусульманаў слова з беларускім суфіксам—н а м а з к а р(=багамолец).

[5]) сабах—раніца.

[6]) умываньне.

[7]) зямны паклон.

певень ест — калі пытаеш імя, ест Мекаіл. Потым аршовы муэзьзін [1]), ночы азан [2]) пяючы, мяне бавіў да сябе.

На аршу, як веле ест ангелаў, усе зараз на адно мейсца забраліся. Пашоў, перад нім стаў імамам [3]) два рэкеаты [4]) намаз пакланіўся 43). Скора направа й налева селям даў, з высокасьці мне адзіне голас прышоў. Борзда 44) на Рэфрэх [5]) усьсеў, яшчэ ехаў, ехаў, страпіў да таго, што мяне клікаў. Адзін ангел мяне клікаў: „І Мухамэд, хадзі да мяне!“ мовіў. Таго ангэла крыла 17) зялёныя. Потым і запоны перайшоў на арш, семдзесят раз перайшоў, семдзесят тысячай запон, а ўсё размавіта рэч дзіўная. Ад кажнага запону да запону пяцьсот год дарогі ходу вялікасьці.

Скора перайшоў тыя запоны, голас прышоў: „І Мухамэд, хадзі сюда! і Мухамэд, ты Мой, а Я твой ест 45), зямля, неба—усё твае“. Той голас як учулі вушы мае, ня знаю як мае ногі ішлі. Кажны ступень пяцьсот год хадзьбы дарогі, на аршу хадзеньне маё такое было. Так блізка прышоў, што нічога не застала межы намі: ані заслоны межы намі ня было, ані запоны, стварыцеля Бога абліччa відзеў дзіўне, яўна стала перада мной Божае абліччa, але зроку ня стала ў вачах маіх. Сьвецкія вочы Божай парсоны не магуць відзець, моцны Пан Бог ачом зрок дае. Душнымі ачыма відзеў таго чыстага Пана Бога, Каторы мяне стварыў. Скора абачыў, сэджда [6]) ўчыніў, зараз у том часе сеў аттахіяту [7]). Пан Бог мовіць 38): „І посьле, узьнімі галаву, што табе трэба, усё ў Мяне гатова, і посьле, чаго жадаеш, прасі, дам табе, чаго будзеш жадаць ад Мяне“. Рэк: „І Божа, просьба мая — уммет мой, адпусьці ім грахі, то ест ад Цябе жаданьне маё“. Мовіць 38) Пан Бог: „Хто будзе трымаці справы твае, Я яму ўчыню ласку Сваю. Также той мае быць тваім умметам, хто да сьмерці ня будзе апускаць суннат [8]) твой; твой суннат калі будзе трымаць, а Мой фарз [9]), то Я яму харамам [10]) учыню пекла. Хто прыйдзе да цябе і рачэ: „Посьле Божы!“, райськія істравы 45а) той мае есьць. Хто пяць вахтаў [11]) намаз заўсёды 46] кланяецца, у раю пакоі вышшыя будзе мець; хто у мяне ўстаўічне верыць, яшчэ лепшы пакой рашшыру і рызку [12]) ім лёгка 47) дам. Калі захоча, скарбу ім прычыню. Скора скарбу пабольшае, да хаджджу [13]) пойдзе, другі ўчынак будзе зекат [14]) даваць. Калі ён адзін раз дасьць, Я яму дзесяць дам, у раю яму адзеньне дам. Хто-бы маіх халапоў галодных карміў або нагому ка-

---

[1]) той, што пяе азан.
[2]) пяцьцё,-гукаючае на малітву.
[3]) стаяць імамам—стаяць наперадзе, адгэтуль імам—духоўнік, зн. наперадзе, разумеецца „стоячы“.
[4]) час малітвы.
[5]) часіна, мамэнт, гэтта назоў каня.
[6]) зямны паклон.
[7]) седзя на куркішках.
[8]) права Магамэдава.
[9]) закон Божы.
[10]) твор. адз. ад араб. х а р а м—забаронена.
[11]) араб. „вакт“ — пара, раз; ё пяць пораў або разоў у дзень, у каторыя мусульмане павінны маліцца.
[12]) араб. „рызк“—маемасьць, штадзенны хлеб.
[13]) хадж—падарожжа ў сьвятыя месцы, араб.
[14]) до-ая часьць заробку, даваная старцом.

шулю даў альбо надзеў, такім людзем даравиць буду райськім адзеньнем і каронаю, за галоднага карменьня тысяча платы дам, калі чаго баяцца, будзе вызвален... За кім ты будзеш прычыняцца, Я учыню ад пякельнага агню вольным, таго вольным учыню. Не сумлявайся 48) а Маём адзіностве 49]. Салават [1]) хто будзе пеці табе, пэўне ведай — грахі з яго змыюць; ласку Сваю ад іх не адлучу, агіды ў твар іх ня ўдару; з добрасьці сваей зьмілаваньне ўчыню: хто вінен, хто ня вінен не пазнаеш..

Потым мяне Джабраіл абачыў. Джабраіл, за руку мяне ўзяўшы, хадзіў: „І Мухамэд, увашоўшы тут абачыш". Потым мне варота паказаў; зямля і неба поўны сталі сьветласьці... із сярэдзіны сьветласьць пасыпалася. „Бісмі'ллягі" [2]) рэкшы, увашоў у рай. Паслухай як там было. Увашоўшы ў рай, хадзіў там з пакою да пакою, гуляючы радаваўся. Адзін ад другога вышэй тыя пакоі. У пакоях панны райськія сядзяць. Ня можа быць месяц ані слонца так ясна, так іх твары ясныя й харошыя. У кажнай на галаве із сьветласьці карона, месяц, слонца ня так ясны: сонечнае сьветласьці 50) на сьвеце мала будзе, такжа й месяц як у хмары будзе. З тых панен калі-б адна палец свой указала на сьвет або ногаць свой, ад палца яе сьветласьці быў-бы ясны сёй сьвет з канца ў канец. Палцам падобны такжа цела іх, у жылах відаць кроў іх. Кажная семдзесят адзеньня на сабе носіць, а кажнае адзеньне іншага калёру: семдзесят жмуткаў у касах валасоў із фіжмай у розных пахах 51). Станы іх субтэльныя, вочы харошыя, устыду задаюць зьвездам. Такжа слова іх мертвага 52) ажываюць. У роце сьліна—вада жывушчая.

Тых высокіх палацаў паслухай высокасьці як ест: ведай пэўне —за нябескія зьвезды яшчэ вышэй 53) у лічбе сто дваццаць чатыры тысячы. Кажны палац, як на сьвеце гара вялікая, а ў сярэдзіне райськіх панен поўна. Каменьне якія ест, Пан Бог знае, ня можа язык выпаведзіць. Злота, срэбра, дарагія каменьне, ясная ад дарагога каменьня. Ніхто тых палацаў не будаваў і гліны работнікі не дапталі. У кажнам палацу адзін майстат із шмарагду паставены. Для прарокаў стварыў то Пан Бог, Он паважны, Он міласэрны 54), Он багаты. У кажнам палацу на браме напісана: то ест таго й таго сына палац. Яшчэ пакоі ест над тымі пакоямі, у лічбе чатырыста і сорак і чатыры палацы. У кажнам палацу семдзесят тысячай пакояў ест 55), у кажнам пакою адзін майстат стаіць. Райськія панны на ніх сядзяць. Шайхове маюць там быць, у том раю маюць мешкаць. А пад тымі яшчэ мусульманськія, з белага пэрла пакоі іх. У кажнам пакою паслана сьветласьці каберцы. Мусульманін прароку пей салават. Аднаго мейсца таго нямаш, ня відзеў у раі каб 56): і ў сярэдзіне й зьверху так ест ведаю.

А ля тых пакояў сады, агароды, пясок фіжмовы, трава шафрановая; садовіна непадобная гэтай садовіне 57), дзерава ўверх карэньнем, а ўніз садовінай 58). Да аршу [3]) таго дзерава карані, тры-

[1]) малітва, выказуючая пашану да прарока.

[2]) у Імя Бога.

[3]) пасаду.

мае зямлю й неба й ангелы, арш, то ест райськія раскошы... Калі-б мой язык хацеў а раю вымавіць. непераставаючы мовіў год.

Разгледзеўшы ў раю, вярнуўся назад; ку чацьвертаму 59) небу зышоў. На чацьвертам 60) небе відзеў Бэйтулмаморы, яго сьветласьць месяц, слонца патлуміла. Семдзесят тысячай ангелаў стаяла, у том паслугу чынілі. Семсот тысяча ангелаў перад ім стаяць, усе яго расказу трымаць гатовы. Адна табліца перад ім стаіць, ён уставічне на яе глядзіць. Па правай старане адно дзерава вырасла, увесь сьвет заняло, так вялікае. Як маю казаць, як веле галін: акружылі ўсе нябёса чыста 61). Што адамськія дзеці на сьвет прышлі, прыйдуць, межы двух броў душы стаяць. Я мовіў: „Хто то ест, Джабраілу?" Он рэк: „То ест душаемца Азраіл". Скора абачыў я яго твару 62), зьлекла душа мая, із страху дрыжала цела маё. Селям[1]) яму даў, селяму майго ня прыняў і на мяне жаднай м рай ня глянуў. Голас прышоў тае-ж гадзіны: „І Азраілу, прыймі, селям прароцкі шануй! Як стаіш, так борзда 63) прароцкі прыймі селям, то будзеш ад пякельнай мукі волен". Потым селям мой прыняў мовіў: „Няхай маю душу 64) табе паляцаю, ня мей за зьле, што ня глянуў на цябе, за душу маю прычыняйся на дзень судны". Вельмі 65) я быў забаўны каля тае табліцы, баюся, штоб чыя сьмерць ня прышла. Калі-б я пільне не глядзеў, то-б расказаньне чыстага Бога зламаў. Я мовіў: „Што то за табліца, і Азраілу?" Он мовіў: „Паслухай, будзеш ведаць: што Пан-Бог за Адама душы стварыў, то на той табліцы імёна ест. Пан Бог чалавека скора ўпарсоніць, у пакаленьне яго на сьвет пусьціць, то на той табліцы ўсе імёна а на том дзераве азнаймёна век і рызк[2]), то ест: скора жонка 66) дзіця ўродзіць, то на том дзераве лісток вырасьце; покі дзіця расьце, лісток расьце, рызк і век яго на том лістку напісаны. Скора рызку ня стане, сьмерць прыйдзе, той лісток адарвецца і перад мяне ўпадзе, а я гляну і той лісток абачу, што за чалавек, чый сын быў пазнаю, і пашлю ангелы мае да яго— і прароча, паслухай, што табе скажу—і зыйдуць яго душу браць, людзем смутак-успамінак настаўляць. Калі мусульманін, із правага боку прыйдуць, калі кяфірын[3]), із левага боку прыйдуць і так яго усе возьмуць і сьціснуць, аж да горла душа прыйдзе. Потым душы я бяру ў іх, Пан Бог што раскажа, то учыню. Правай рукой бяру душы мусульманськія, левай рукой бяру душы кяфірськія. Такія уйдуць мусульмане да раю, кяфіраў укідаю ў пекла джэгэннэм. Хто злосьць чыніць, добрасьці ня будзе мець". Я мовіў: „Чы ты возьмеш і гэтую душу, у зямлю ўложыш гэтае цела?" Мовіў: „Так ест, я бяру душы, нічым учыню, якія вялікія панове, султанове. Як веле пакояў чыню без гаспадара, душу вазьму вялікім страхам так, як веле замкаў чыню пустымі. І ты ня будзь такім, каб 21) меў даць нутр гэтаму сьвету. Як веле тых, каторыя мовілі „Мой сьвет", усім тым я адняў уладу. Тыя рэчы ўспамянуўшы, заўсёгды 46) плачу: з неба ступіўшы, із зямлёй зьмяшаюся. Для таго ўсягды плачу; гэты напітак 67) відзячы, не засьмяюся; ведаю, што 7) і я також умру і сам сваю душу буду

[1]) прывітаў.
[2]) маемасьць.
[3]) нявернік.

брацъ; вечны Пан Бог астанецца на век, а Стварыцель усё мае памарыць. Ствароныя памруць усе ангелы; ані зямля не застане, ані неба, ані людзі, ані ангелы".

Пашоў адтуль, аднаго ангела відзеў дзіўнага: як гляне на гэты сьвет—пустым учыніць; як гляне на мора—суха стане; лічбы мямаш, бяз лічбы ачэй мае. Глянуў на мяне, я вельмі спалохаўся; бяз лічбы ў яго ачэй ест. Адно крэсла паставілі пад яго із агню, і сядзіць той ангел на ём; як семдзесят сьвятоў, так вялікае; той ангел на ём сабе адпачываць учыніў. Сам так страшна сядзіць, бяз лічбы мукараў перад ім стаяць. Скора абачыў страшным яго, вельмі 65) дрыжаў, спалохаўся яго; дрыжалі косьці мае, як ліст на дзераве; на твары адмена стала; як пясок, так розум з галавы вышаў. „Ня дбай" мовіў. Джабраіл. Я мовіў: „Джабраілу, хто то ест?" Джабраіл мовіў: „Пякельны ваявода то ест". Я мовіў: „Няхай страшна не глядзіць, страхам нутр мой няхай ня паліць". Джабраіл мовіў: «І браце, саромяйся, страшна не глядзі на прарока ты, то астатні, усіх нас надзея, Пан Бог нам прычынцай яго даў; паважай яго, то будзеш мець прычыну; не, так застанешся ў пекле на векі». Потым той ангел да мяне мовіў: „Ня ведаў я" а прабачэньня прасіў і вельмі 65) ужо чыніў мне розныя чэсьці.

А перад намі былі адны варота. Я мовіў: „Што то за варота?" Мовіў: „Тут маюць увайці людзі пякельныя, пякельныя то варота, і Мухамэду, тут мае ўвайці той 26) грэшны уммет[1]). Ужо там у сярэдзіне сем пекел, кяфіра[2]) там усе ўвойдуць". «Адчыні, абачу пякельную парсону, як ест, буду знаць страх мукі». Устаўшы ангел адчыніў пякельныя варота; там-жа я відзеў усё, што ест. Скора ў сярэдзіну глянуў, як семкрот земль бачыў, семдзесят тысячай мор відзеў вадзяных, прахам пойдзе, хто-б раз напіўся. Ад аднаго напіцьця з тае вады, чалавек агнём гарыць 68) зараз унутр а зьверх. На кажным беразе морськім семдзесят тысячай мест відзеў на беразе. Тыя места усе із жалеза былі, у кажнам месьце тысяча палацаў; дзя няверных стварыў той 26 моцны Пан, той 26) усім рэчам моцны і вялікі. Тыя палацы усе мядзяныя, у сярэдзіне поўна смалы кіпіць. У кажнам палацу тысяча пакояў ест, у сярэдзіне волава растоплена...

Потым яшчэ варота адчыніліся, сем пекел там мне яўна стала. Там відзеў адзін полк жанок, за персьці іх завешаны; з персьцяй іх выходзіць, замест малака, сук, авіца-кроў. Я мовіў: «Што гэтыя на сьвеце чынілі?» Ангел рэк: «Малако свае прадавалі, у іх усіх свае дзеці былі, свае пакінуўшы, чужыя мамчылі».

Яшчэ відзеў адзін полк людзей. Тыя крычаць вялікім крыкам. Ланцугамі акаваны рукі іх, з патыліцы рвуць языкі іх, мукары языкі рэжуць, галавамі ўніз іх завешаны. Я мовіў: „То яшчэ хто ест, што 7) так веле мукі церпяць?" Мовіў ангел: „То манюкі, махляры" 69).

Яшчэ відзеў адзін полк блудных жанок. Яны крычаць, уздыхаюць; адзеньне іх смаляное, а ўсё цела нага, грэшна; па пояс у вагню стаяць. Я мовіў: „Гэтыя, што чынілі на сьвеце?" Сказаў: „Гэтыя му-

---

[1]) царква, як зборышча вернікаў.

[2]) няверныя.

жоў ня слухалі, улегца мелі, чужалоства 70) чынілі, мужоў ня слухалі. Для таго іх адзеньне смаляное, блуд чынюшчых людзей такі быт будзе".

Яшчэ відзеў адзін полк людзей: галавы вялікія, зубы сьвіныя, брухі як горы або большыя, вужоў, гадаў у сярэдзіне поўна, у кажнага на шыі адзін страшны гад. (То слова мае праўдзіва, ня ест няпраўда!). Кажная гадзіна як хамуціна, на бруху сядзяць так пэўне. Агнём кормяць мукары іх і тое іх распаляе на шматы, на шматы. Праз вушы також вужы, гады ўходзяць і выходзяць, так яўна, як таемна. Я мовіў: „Гэтыя на сьвеце што за дзівы чынілі, што 7) так веле церпяць мукі"? Мовіў: „Гэтыя багатыры, каторыя давалі скарб на інтэрас; яны быццам 71) людзем выгоду чынілі, а ў тым чы халал [1]), чы харам [2]) не глядзелі ядалі, за то ім заплата то ест. Хто што заслужыць, то яму заплата будзе".

Яшчэ відзеў адзін полк маладых і старых, відзеў у вагню гарэць з канца ў канец, а перад імі па дзьве йстравы 72) розныя: адна халал, а другая харам. Халал пакінуўшы, харам ядалі, у вагню за тое мучацца. Я мовіў: „То хто ест?" Мовіў: „Хто халал пакінуўшы, харам ядалі"; мовіў: „у тых усіх халал быў, яны пакінуўшы харам ядалі".

Яшчэ відзеў адзін полк жанок. І тыя мукі вялікай церпяць: рукі іх рэжуць, пілою пілуюць на штукі, на штукі, і тыя штукі знову зрастаюцца. Так у вагню душы іх мучацца! Самых іх тым мясам кормяць, а над то што мае быць мука горшая 73)? Я мовіў: „Гэтыя на сьвеце што чынілі?" Мовіў: „Людзей зачы 74) гаварылі, абмаўлялі; гаварылі яны людзкі гейбэт [3]) рвучы, рвучы елі людзкое мяса".

Як маю казаць, у пекле над людзьмі як вялікі страх? Сем пекал зусім 75) відзеў, так вам знаці даў. Потым адвярнуўся назад ад пекла, із страху стала парсона мая жоўта.

Яшчэ відзеў адзін пакой з смарагду — Стварыцель то стварыў з моцы — а паправе, а палеве вокна ест: правіца сьмяецца, лявіца плача. Там-жа, відзеў, сядзіць адзін чалавек — пей салават, каб 21) з нутра немарасьць вышла! 76)—на правую старану, на рай гляне— сьмяецца, іграе, радуецца, хораша гуляе; з левага боку на пекла гляне, із ачэй яго, замест сьлёз, кроў ідзе; а на зямлі, як веле ест, душы выводзяць, адамськія душы. Із сьмеху-плачу яго выклад: адны кяфіра [4]) ест, а другія Божыя мілосьнікі. Мусульман паправадзяць з павагаю, а на патканьне выйдуць райськія панны з райськімі коньмі; усадзяць на каня райськага, імя Бурак [5]) азьмі, то той конь указаваць яму будуць. Чалавек то абачыўшы, зарадуецца і плакаць перастане, гуляе, сьмяецца. Кяфірськія душы... нясуць да пекла мукары пякельныя. Таму чалавеку плач з тае прычыны......

---

[1]) дазволенае.

[2]) забароненае.

[3]) славу.

[4]) няверніхі.

[5]) часіна, гэтта назоў каня.

# ГАДАВЫЯ МУСУЛЬМАНСКІЯ СВЯТЫ

## / на 1992 і 1993 гг. /

Вечар і дзень узнясення прарока Мухамеда на сёмае неба / Мірадж, 26 і 27 раджаба / — 31.01 і 1.02.1992 г.; 20.01. і 21.01. 1993 г.

Святы вечар / Бара"ат / блаславення шчасця і дабрабыту на увесь год / 14 шаабана / — 17.02.1992 г.; 6.02.1993 г.

Пачатак святога месяца Рамазана і посту Ураза / 1 рамазана /— 4.03.1992 г.; 22.02.1993 г.

Ноч прадвызначэння / Ляйлят-Кадр, 26 рамазана / — 30.03.1992 г.; 19.03.1993 г.

Рамазан-Байрам / Ураза-Байрам, 1 і 2 шаваля /— 3 — 4.04.1992 г.; 24 — 25.03.1993 г.

Курбан-Байрам / 10 зу-ль-хіджа / — 10.06.1992 г.; 31.05.1993 г.

Новы год / 1 мухарэма / — Новы 1413 г. 1.07.1992; Новы 1414 г. 20.06.1993 г.

Жалобны дзень / Ашура/ у памяць пакутніцкай смерці імама Хусейна / 10 мухарэма / 10.07.1992 г.; 29.06.1993 г.

Дзень нараджэння прарока Мухамеда / 11 рабі аль-аваля / — 9.09.1992 г.; 29.08.1993 г.

Заувага: у некаторых мусульманскіх краінах час святкавання адбываецца на 1 суткі пазней, чым у арабскіх краінах.

# ПРЫТЧА ПРА ПРАРОКА ІСУ І МЯСНІКА

/ з крымскататарскага часопіса "Къасевет" /

Спытаў аднойчы Іса-прарок / Ісус Хрыстос / ва Усявышняга: "Хто будзе маім суседам у раю ?", на што атрымаў адказ: "Тваім суседам будзе набожны чалавек, хасап / мяснік / з пэўнага горада". Зацікавіўся Іса, што за чалавек такі, за якія дабрадзействы ён заслужыў гонар быць у раю.

І адправіўся Іса у той горад, знайшоў краму гэтага мясніка. Цэлы дзень назіраў за яго працай, а калі вечарам пачаў зачыняць сваю краму, рашыў падысці да яго.

— Салям алейкум, паважаны. Няма у мяне у гэтым горадзе ні радні, ні знаёмых. Пусці мяне на начлег. Алах аддзячыць табе за тваю міласць.

— Алах вучыць нас рабіць дабро. Пойдзем да мяне і падзелім са мной хлеб, — адказаў хасап і запрасіў у дом.

Увайшоўшы у дом, гаспадар пасадзіў гасця на ганаровае месца, а сам узяўся варыць вячэру. Прыгатаваўшы страву, ён папрасіў прабачэння у гасця і сказаў, што спачатку павінен пакарміць маці. Прарок здзівіўся, бо думаў, што у хаце няма жанчыны. Але яшчэ больш здзівіўся, калі ўбачыў, што хасап апускае падвешаную пад столлю калыску. Адхінуўшы парчовы полаг гаспадар паднёс ежу і стаў карміць жанчыну, якая там ляжала. Жанчына у адказ ледзь чутна нешта прашаптала.

Хасап запрасіў да стала гасця і расказаў яму, што у люльцы ляжыць яго маці, зусім слабая, высахшая ад хваробы і старасці. Ён не ажаніўся, каб усё жыццё прысвяціць маці. Каб насякомыя не дакучалі хворай ён зрабіў ёй пасцель у люльцы пад столлю і закрыў яе парчовым полагам. "І кожны раз, дзякуючы мне за клопат, яна кажа: Няхай будзе за дабрыню і цярпенне табе адведзена месца у раю побач з Ісой-прарокам" — скончыў ён свой расказ

Паківаў галавой Іса-прарок і падумаў: "Вялікі Алах ! Сапраўды, той хто робіць дабро будзе вечна у раю".

## НА ВАШЫ ПЫТАННІ АДКАЗВАЕМ

Чаму у "Байраме" аутарства публікацый пазначана толькі у канцы квартальніка ?

Адказ. Мусульманская этыка, а нашы татары таксама яе прытрымліваюцца, вучыць, што істотным з"яуляецца змест, а хто сказау -- справа другарадная. Часам бывае, што перад прозвішчам напісана, што, калі і у каго заслужыу званні-празванні, а вялікага сэнсу у змешчаным матэрыяле і няма.

Хто такія С.Хазбіевіч і А.Якубаускас ?

Адказ. Гэта роднасныя нам татары: адзін з Польшчы, другі -- з Літвы. Ніжэй друкуем невялікія даведкі.

СЯЛІМ ХАЗБІЕВІЧ, нарадзіуся у 1955 г. у Гданьску. Тут жа скончыу універсітэт. Першыя вершы надрукавау у 1973 г. Продкі яго паходзяць з Віленшчыны. Яго прадзед быу імамам у Вільні. Добры уплыу на Сяліма аказау Мацей Канапацкі, даследчык і папулярызатар традыцыі польскіх татарау. У С.Хазбіевіча чатыры паэтычныя зборнікі: "Wejście w baśń", "Czarodziejski róg chłopca", "Sen od jabłek ciężki", "Baśnie, legendy i podania Tatarów polsko-litewskich".

АДАС ЯКУБАУСКАС, нарадзіуся у в.Бутрымоніс Алітускага раёна Рэспублікі Літва. Студэнт апошняга курса гісторыка-філалагічнага факультэта Вільнюскага педагагічнага інстытута. У пачатку 1992 г., калі на тое будзе ласка Алаха, выйдзе першы паэтычны зборнік "Начало пути". "З дзіцячых гадоу -- кажа Адас -- я увабрау у сябе культуру майго татарскага народа, які рассяліуся на тэрыторыі Вялікага княства Літоускага. Хачу служыць свайму народу."

## MISTYKA WSPOMNIEŃ (III)

Ulica tatarska w mieście Słonimie
Polskie — tatarskie swojskie domy
dawnych bojarów Wielkiego Księstwa.
Szaleństwo Zygmunta Augusta
twór Polski Jagiellońskiej litewskich —
taraskich bojarów
zamknęło w skórze wilka
który do dziś straszy wokół Trok,
Niemieży i Sorok — Tatar.
I leci gęsta maź psychicznych
burz i wzlata poezją nad
pamięcią zaścianków.

## MISTYKA WSPOMNIEŃ (IV)

Puszcza i stepy zakwitły ciemną
melodią w litewskich domach
białoruskich słowach i polskich
głowach.
Zza dymu jemioły na leśnej
polanie parują krwią tatarskie
serca zwęglając się
w azjatycki piasek
Turkiestanu —
wiecznej tęsknoty.

## JESIEŃ PAMIĘCI

Porzuciłem swe odwieczne obozowisko
z rytmem buńczuka unosi się melancholia
Gdzieś w oddali słychać pieśń —
Słychać przeciągłe zawodzenie
A ja łaknę coraz więcej światła
— przestrzeni snu —
Porzuciłem swe odwieczne obozowisko
i wszystko uległo przemieszczeniu
zacząłem dziwić się dawnej baśni
zacząłem gorycz żuć
a zbliża się już do jesieni
Porzuciłem swe odwieczne obozowisko —

## TATARSKI DOM

Zbudować pragnąłem dom.
Budowałem powoli.
Z siebie z kamienia
i drewna
z resztek ocalałych z pożaru
Wielkiego Księstwa
z pogorzelisk
tatarskiego dworku
Zbudowałem .

## TATARSKI SEN

Mieszka we mnie Polak i Tatar
Jeden nosi maciejówkę drugi krymkę.
Szablę w snach ostrzą tak samo
Szalony poezją na stepach Kipczaku
tatarską szablą walczę o Wielką Polskę
Wilcze futro z litewskich lasów
leży na obu tak samo.
Tylko z rana, po obudzeniu
kiedy parzę kawę
Próbuję zapomnieć
Ta sama osoba w ortalionowej
kurtce staje w kolejce
po mleko.

## ДЕРЕВНЯ МОЕГО ДЕТСТВА

Бутримонис... Деревня моего детства. Я помню её, какой она была тогда: неказистые, покривившиеся от долгого века домишки, конским навозом пропахшие грязные улочки, и эти же улочки после дождя уже пахнущие водяными парами, людей с морщинистыми, поблекшими лицами и такой же одеждой... Помню наш дом, маленький, старый, но милый. Моих друзей: с ними я бегал к пруду купаться ...

Жизнь семимильными шагами мчится вперёд и этот милый моему сердцу отрезок времени всё больше и больше кутается в туман идиллии. Я приезжаю в мою деревеньку и брожу по её кривым и пыльным улочкам, вспоминаю детство, но никогда не захожу в наш старый домик: не хочу изменить тот хороший образ, который навсегда отпечатался в моей душе. Там уже хозяйничают другие люди, со своими порядками и нравами. Наконец, не хочу тревожить их мирное существование.

ж ж ж

Глаза любимой -- две газели,
Не видел я прекрасней глаз.
Они мне песнь любви пропели,
Я им ответил песней ласк.

ж ж ж

Лебедь купалась в пруду,
И так шаловливо шипела,
Что мне показалось: там дева воду
Плескала и ласково пела.

ж ж ж

Закружилась вьюга,
Метёт белый снег,
Не видать ни друга, ни подруги след.

Не видать былого -- всё ушло в тоску,
Лишь грущу я снова,
Лишь тебя зову ...

ж ж ж

Мои годы -- кони,
Твои годы — сани,
Прокатимся, милая,
В жизненном тумане.

Коней впряжем в сани,
Сани пустим бегом,
Пусть же наши судьбы
Поспевают следом.

Быстро кони мчатся,
Тащут бойко сани,
Долго нам скитаться
В жизненном тумане.

## МЫ З ІМАНАМ ЖЫВЁМ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

Мы з Паволжа і Крыма з Іманам прыйшлі
На гасцінныя землі Літвы й Беларусі.
Пад Грунвальдам суровы экзамен здалі
Й уланскую службу няслі без прымусу.

Рэфрэн: Ляй лагу іллягу, Мухамед расул Алагу,
Ляй лагу іллягу, Мухамед расул Алагу.

Мы зляпілі дамы, пры ауле сваю
Для малебнаў Алаху мячэць збудавалі.
Нарадзілі дзяцей, асвяцілі зямлю
І ў яе па Ісламу памерлых хавалі.

Рэфрэн

На прызыў спадара ў любую пару
Батыры сваіх коней сядлалі.
Жонак бралі сваіх каб варылі яду
Й знявечаных у баях даглядалі.

Рэфрэн

Служба цяжкай была, у суровых баях
Шмат галоў маладзецкіх паклалі.
За адвагу і мужнасць татарскім сынам
Каралі прывілеі давалі,

Рэфрэн

Ішлі гады й нашчадкі татар-мусульман
Беларускую мову з павагай прыдбалі,
Але веру ў Алаха -- свяшчэнны Іман
Мы на векі вякоў захавалі.

Рэфрэн

## МЫ З ІМАНАМ ЖЫВЁМ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ -- БИЗЛЕР ИМАН ИЛЕН БЕЛОРУСИЕ ТОПРАГЪЫНДА ЯШАЙМЫЗ

Итиль озен ве Къымдан,
Бу топракъкъа биз-кельдик .
Грунвальд уруш чолинде.
Атлы аскерлеримизнен,
Къатты имтиан бердик.
Багълама: Ляи-ляи ильлялах
Мухаммеден ресулюллях.
Ляи-ляи ильляллах,
Мухаммеден ресулюллях.
Эвлеримизни, джамилерни,
Бу топракъта биз къурдукъ
Бала-чагъа остурип
Аллах! Ислям динимизни,
Джан-юректен биз туттыкъ.
Арби ишке чагъырылганда,
Атларымызны эгерлеп
Азир эдик батырлыкъкъа
Гедже-кюндуз демей-деп.
Къадынларымыз бизден къалмай
Артмыздан келелер.
Акъайларына аш пиширип,
Урушкъа бакъмай берелер.
Багълама
Агъыр уруш чольлеринде,
Чокъ джан ве баш экъильди,
Батыр-татар йигитлерге,
Падишалар нам берди.
Багълама

Асырлар кечти бу ерлерде,
Тилимизни унуттыкъ.
Аллах илен кунь кечирип,
Ислям динини биз туттыкъ.

Беларус халкъ тилини,
Ана тили деп бийледик.
Динимизни-адетмизни
Бу тильде биз кутледик.

Багълама

КАЗАНСКАТАТАРСКАЯ ПЕСНЯ "ВАЛЬС ДАЖДЖУ"

/ казанскататарскія словы і музыку гл. на старонцы 57 /

На дварэ льецца дождж,
З дахаў вада ляціць цурком.
Пасярод вялікай лужы
Плёскаюцца дзеці.

Прыпеў:
Кроплі капаюць кап-кап,
Кап ды кап, кап ды кап...
Немагчыма затрымаць іх,
Затрымаць, затрымаць.

Дождж ідзе, дождж ідзе,
На радасць дзятве.
Нават і старых бабуль
Узрадаваў гэты дождж.

Прыпеў:
Кроплі капаюць кап-кап,
Кап ды кап, кап ды кап...
Немагчыма затрымаць іх,
Затрымаць, затрымаць.

Выйшаў на вуліцу Марат,
І таксама радуецца.
А свавольніца Лейла
Абліла яго вадой.

Прыпеў:
Хлопчыкі і дзяўчынкі
смяюцца, смяюцца.
Немагчыма іх утаймаваць,
Немагчыма супакоіць !

## КАЗАНСКАТАТАРСКАЯ ПЕСНЯ

## «ЯҢГЫР ВАЛЬСЫ» — " ВАЛЬС ДАЖДЖУ "

Апас районы Чути урта мәктәбе укучысы Резеда **ХӘЙРЕТДИНОВА** сүзләре
Марс **КӘШИПОВ** музыкасы

Урамда яңгыр ява,
Түбәдән тамчы тама.
Күлләвек уртасында
Юана бала-чага.

Кушымта:

Тамчы тама тып та тып,
тып та тып, тып та тып...
Булмый аны туктатып,
туктатып, туктатып.

Яңгыр һаман да ява,
Куана бала-чага.
Бар дөньясын онытып
Әбекәйләр дә шат елмая.

Кушымта:

Тамчы тама тып та тып,
тып та тып, тып та тып...
Булмый аны туктатып,
туктатып, туктатып.

Урамга чыккан Марат,
Карап тора шаккатып.
Ләйлә су чәпелдәтә
Шул Маратны шаяртып.

Кушымта:

Малайлар, кызлар көлә,
әй көлә, әй көлә,
Булмый гына туктатып,
туктатып, туктатып!



Пераклад слоў на беларускую мову гл. на старонцы 56

## БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

IIOO слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| баба | апай |
| бабка / старая жанчына/ | картана / битай / |
| багаты | зенгин |
| баец | аскер |
| база | эсас, темель |
| балець | хасталанмакъ |
| балота | батакъ |
| барада | сакъал |
| барацьба | куреш |
| бацька | баба |
| бацюшка / поп / | папаз |
| бачыць | кормек |
| баявы | дженкавер |
| баяцца | къоркъмакъ |
| бегаць | чапмакъ |
| бегчы | чапмакъ |
| бедны | фукъаре |
| без / напрыклад, бяздомны, бяздумны / | дадаецца канчатак - сиз, -сыз / эвсиз, акъылсыз / |
| беларус | беларус |
| беларускі | беларусча |
| Беларусь | Беларусь |
| белы | бияз, акъ |
| бераг / ракі / | чет / озен - чети /, кенар |
| бібліятэка | китапхане |
| біцца | урушмакъ |
| біць | урмакъ |
| блакітны | кок |
| бліжэй | якъынджа |
| блізка | якъын |
| блізкі | якъын, пек якъын |
| бо | онынъ ичунь |
| Бог | Аллах |
| бой | уруш |

| беларускае слова | крымскатарскае слова |
|---|---|
| бок | чет, тараф, кенар |
| болей | балабан, буюк, чокъ |
| боль | агъырув |
| больш | балабан, буюк, чокъ |
| большасць | чокълыкъ, коплик, зияделик |
| большы | чокъ, балабанджа |
| бор | тав, урман |
| бот | чызма |
| брат | къардаш |
| браток | къардашым, къардашчыгъым |
| брацкі | къардашчасына |
| браць | алмакъ, башламакъ |
| браць | алмакъ |
| брыгада | болюк, бригада |
| брыгадзір | болюк башы, бригадир |
| будаўнік | къуруджы |
| будаўніцтва | къуруджылыкъ |
| будаўнічы | къуруджы |
| будучы | келеджек / келеджекте / |
| будынак | бина |
| буйнейшы | энъ балабан, энъ буюк |
| буйны | балабан, буюк |
| бульба | къартоп |
| бурак | учкуньдур |
| буржуазны | буржуа |
| бы | ким-иле, не-иле |
| бываць | олмакъ, булунмакъ |
| былы | кечен |
| бытавы | аят, аятлы |
| быццам | гальва |
| быць | олмакъ, олмалы |
| бяда | беля |
| бяспека | хатасыз |
| ва | да канце слова дадаецца -де, -да |
| вада | сув |
| ваенны | арбий |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| вайна | дженек |
| вароты | къапы |
| варыць | пиширмек |
| ваш | сизни |
| ведаць | бильмек |
| везці | алып кетмек |
| век / 100 гадоў / | асыр |
| век / чалавечы / | инсаннынъ асыры, инсаннынъ омури |
| вельмі | пек |
| верабей | торгъай |
| верыць | инанмакъ |
| весела | хош, хошлы |
| весці | хабер, хаберлер |
| вецер | ель |
| вечар | акъам |
| вёска | кой |
| відаць | корюне, кормек |
| відаць / пабочнае слова / | шай олса, эгерде |
| віно | шарап |
| вісець | асылмакъ |
| вобласць | улькe, веляет, област |
| воз | арба |
| возера | голь, чокъракъ |
| войска | орды |
| вока | коз |
| вол | огуз |
| воля | урнет, сербеслик |
| вопыт | теджирбе |
| вораг | душман |
| восем | секиз |
| восемдзесят | секесен |
| вось / часціца / | ана / ана санъа / |
| восьмы | секизинджи |
| вот / часціца / | ана, мна |
| воўк | къашкъыр |

Матчына мова -- душа народа.
Ана тили -- миллетнинъ джаны.

Мы вывучаем сваю мову.
Биз озимизни ана тилини огренемиз.

Мы чытаем па-татарску.
Биз татарджна окъуймыз.

Мы пішам па-татарску.
Биз татарджна язамыз.

Я размаўляю па-татарску.
Мен татарджа лаф этем.

Каб шмат ведаць -- трэба шмат чытаць.
Бильмек ичунь чокъ окъумакъ керек.

Не той шмат ведае, хто доўга жыве, але той, хто многа падарожнічае.
Чокъ яшагъан чокъ бильмез, чокъ кезген чокъ билер.

Прыдзі, вып"ем кубак кавы.
Кель, бир фильджан къаве ичейик.

Водка можа і слана паваліць.
Ракъы филлернидe йыкъар.

## ДЗЕ ЖЫВУЦЬ ТАТАРЫ

Колькасць жыхароў татарскай нацыянальнасці ў сталіцы, гарадах абласнога падпарадкавання, раёнах па перапісу 1989 г.

Мінск 2925

Гарады абласнога падпарадкавання

| | | | |
|---|---|---|---|
| Асіповічы | 44 | Лепель | 9 |
| Бабруйск | 289 | Ліда | 121 |
| Баранавічы | 220 | Лунінец | 14 |
| Барысаў | 223 | Магілёў | 394 |
| Брэст | 279 | Мазыр | 105 |
| Ваўкавыск | 23 | Маладзечна | 121 |
| Вілейка | 7 | Навагрудак | 316 |
| Віцебск | 442 | Наваполацк | 129 |
| Гомель | 509 | Пінск | 91 |
| Горкі | 31 | Полацк | 64 |
| Гродна | 635 | Рагачоў | 18 |
| Дзяржынск | 59 | Рэчыца | 106 |
| Добруш | 14 | Салігорск | 7 |
| Жлобін | 127 | Светлагорск | 92 |
| Жодзіна | 30 | Слонім | 96 |
| Калінкавічы | 33 | Слуцк | 46 |
| Кобрын | 70 | Смаргонь | 69 |
| Крычаў | 17 | | |

Раёны / жыхары невялікіх гарадоў, пасёлкаў гарадскога тыпу, сельскіх населеных пунктаў /

| | | | |
|---|---|---|---|
| Акцябрскі | 4 | Астравецкі | 12 |
| Аршанскі | 19 | Ашмянскі | 84 |

| | |
|---|---|
| Бабруйскі | 5 |
| Баранавіцкі | 39 |
| Барысаускі | 27 |
| Берастав іцкі | 6 |
| Брагінскі | 6 |
| Браслаускі | 94 |
| Брэсцкі | 42 |
| Буда-Кашалёускі | 27 |
| Быхаускі | 62 |
| Бялыніцкі | 7 |
| Бярозаускі | 55 |
| Бярэзінскі | 29 |
| Валожынскі | 64 |
| Ваукавыскі | 26 |
| Верхнядзвінскі | I8 |
| Веткаускі | 7 |
| Вілейскі | II |
| Віцебскі | 22 |
| Воранаускі | 29 |
| Ганцавіцкі | I6 |
| Глускі | 6 |
| Глыбоцкі | I27 |
| Гомельскі | 56 |
| Горацкі | 6 |
| Гродзенскі | II0 |
| Дзяржынскі | 38 |
| Дзятлаускі | 23 |
| Добрушскі | I2 |
| Драгічынскі | 6 |
| Ельскі | 9 |
| Жабінкаускі | 6 |
| Жлобінскі | I4 |
| Жыткавіцкі | I5 |
| Зельвенскі | 9 |
| Іванаускі | 3 |
| Івацэвіцкі | I6 |
| Іуеускі | 622 |
| Калінкавіцкі | 23 |
| Камянецкі | I6 |
| Капыльскі | 34 |
| Кармянскі | II |
| Карэліцкі | 52 |
| Касцюковіцкі | 9 |
| Клецкі | I44 |
| Клімавіцкі | I3 |
| Клічаускі | 9 |
| Кобрынскі | 5 |
| Краснапольскі | 7 |
| Круглянскі | 6 |
| Крупскі | I7 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лагойскі | 27 | Пухавіцкі | I46 |
| Лельчыцкі | 7 | Рагачоускі | 25 |
| Лідскі | 33 | Рэчыцкі | 26 |
| Лоеускі | I9 | Салігорскі | I2 |
| Лунінецкі | 6 | Светлагорскі | I2 |
| Любанскі | 27 | Свіслацкі | I0 |
| Ляхавіцкі | 68 | Слаугарадскі | I |
| Магілёускі | I8 | Слонімскі | 9 |
| Мазырскі | I8 | Слуцкі | I4 |
| Маладзечанскі | 52 | Смалявіцкі | 29 |
| Маларыцкі | I6 | Смаргонскі | 4I |
| Мастоускі | I4 | Старадарожскі | 27 |
| Мiёрскі | 9 | Столінскі | 7 |
| Мінскі | I68 | Уздзенскі | I08 |
| Мсціслаускі | II | Хойніцкі | I3 |
| Мядзельскі | 90 | Хоцімскі | 2 |
| Навагрудскі | 23 | Чавускі | 8 |
| Нараулянскі | 6 | Чачэрскі | 8 |
| Нясвіжскі | 35 | Чэрвеньскі | 3I7 |
| Пастаускі | I23 | Чэрыкаускі | I0 |
| Петрыкаускі | I7 | Шклоускі | I0 |
| Пінскі | 2I | Шчучынскі | 98 |
| Пружанскі | I00 | | |

## З М Е С Т

Падпісана да друку ..5.12.91.......

Тыраж 300 экз. Фармат 60 x 84 I/16

Ум. друк. арк. 3,72. Папера друк. № I. Зак. 100

Надрукавана на ратапрынце выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі

Мінск, вул. Ф.Скарыны, I5-а